ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№48 (2502)

28 лістапада 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

*РОДНЫ КУТ ПЕСНЯРА*

## СЛОВА КОЛАСА НАД НЁМАНАМ




Мне гэтая хата заўсёды будзе стаяць у памяці. На яе страсе — буслянка. Клякоча, задраўшы галаву, бусел. А каля пясчанай дарогі — хвойнік. Так было зусім нядаўна. А сёння ні буслянкі, ні пясчанай дарогі няма. Замест яе ляжыць асфальтаваная вуліца: вёска Акінчыцы, у якой нарадзіўся Якуб Колас, наш цудоўны і сусветна вядомы пісьменнік, стала адным з мікрараёнаў горада Стоўбцы. Безумоўна, яна ад гэтага прайграла: быць самастойнай ці ў складзе горада — значная розніца.

Аднак сутнасць захавалася. Аднюленая хата, у якой жыў перад паступленнем у Нясвіжскую семінарыю малады дзяцюк Канстанцін Міцкевіч, сёння вабіць тысячы аматараў яго таленту. Вёска Акінчыцы — толькі так ведаюць гэты ўскраек Стоўбцаў тыя, хто штогод наведвае радзіму песняра беларускага народа.

Гляджу на гэта хараство — і душа радуецца. На фоне блакітнага неба — пышная крона сасны. Яе гойдае лёгкі ветрык. Крона яе зліваецца з такімі ж цудоўнымі іншымі кронамі, і яны адсюль ліюцца зялёным морам, здаецца, да краю свету.

Тут, на непаўторнай прыродзе, рос цікаўны да ўсяго хлопчык. Ён слухаў пошум хвоек, збіраў крамяныя баравікі, духмяныя суніцы. Кас-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**МАЛАЯ РАДЗІМА Ў ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЕ ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА**

## МАЁ РОДНАЕ МЯСТЭЧКА ДЗІСНА

"Усе мы з хат"... Гэты трапны крылаты выраз распасцёр крыло і над творчым лёсам Вацлава Ластоўскага, чыё імя да нядаўніх часоў было захінена іншым чорным крылом, цень ад якога надзейней любога замка наклала табу на ягоны лёс і творчую спадчыну. Бо калі б сталася іначай, па-людску, па-чалавечы, як у цывілізаваных народаў шануюцца іх лепшыя сыны-творцы, тады б не давялося праз стагоддзе адкрываць праўдзівую мясціну іх нараджэння, як гэта здарылася з Ластоўскім.

Не буду спыняцца на тым факце падрабязна. Нагадаю толькі, што да апошняга часу ўсе айчынныя і замежныя энцыклапедычныя даведнікі падавалі аднолькава недакладную дату нараджэння — 20 кастрычніка (1 лістапада 1883 года) і месца нараджэння Вацлава Ластоўскага — засценак Калеснікі ў сучасным Мёрскім раёне. У справе Вацлава Ластоўскага, што захоўваецца ў архіве КДБ у Мінску (№ 14617, т. 1) на арк. 7 падшыта "Анкета арестованного и задержанного ОГПУ". У ёй затрыманы ўлетку 1930 года "Ластовский Вацлав (Вячеслав) Юстинович, белорус, б/п", назваў сябе родам з "Виленской губ., Дисненского уезда, хутор Колесники". Цяпер дакументальна даведзена, што родны кут Ластоўскага — былы засценак Калеснікава (зараз у Плiскім сельсавеце Глыбоцкага раёна).

Калі б у нас адбывалася ўсё, як у людзей, дык прапанаваную на сённяшні дзень тэму майго выступлення даўно і хораша здолелі б раскрыць мясцовыя краязнаўцы. Бо каму, як не ім, сапраўднай мелодыяй падаліся б назвы вёсак, пушч, урочышчаў, у якіх дрэмлюць памяткі даўніх дзён, здзірванелыя курганы-валатоўкі, якія бязлітасны час мог сцерці з твару зямлі, але якія навечна засталіся на старонках, напісаных ім. Стары Пагост і Новы Пагост, засценак Гірсы ў вярсце ад Пагоста, вёскі Буда, Дзянісава і Задарожжа, мястэчкі Друя і Глыбокае, старадаўні Германаўскі тракт на Пагост, Падорская пушча ды пахоны берагі Дзісенкі...

Забароннае табу адбілася на тым, што адзін з псеўданімаў Вацлава Ластоўскага "Пагашчанін" да апошніх дзён быў не раскрыты, хоць сам па сабе псеўданім крэўна знітаваны з Дзісеншчынай, дзе ў Старым і Новым Пагосце і сёння жывуць пагашчане.

Такім псеўданімам упершыню падпісаны ўспаміны "Старабеларуская вясковая школа". Вось іх пачатак: "Пішучаму гэтыя радкі здарылася вучыцца ў старога тыпу беларускай вясковай школе, аб якіх цяпер ужо і паміну няма. Дый тая, у якой я вучыўся, была дахаваўшыся да маіх часоў дзякуючы толькі адлегласці яе ад парадоў і чыгунак.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

З ВАНДРОЎКІ ЯНКІ КАЛБАСЫ

## ЗА НАЙЛЕПШУЮ ПРЫШЛАСЦЬ

**АБУДЖЭННЕ ПАСНУЛЫХ ПАЧУЦЦЯЎ**

Да нас у рэдакцыю пазваніла супрацоўніца Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Ірына Зварыка і расказала, што нядаўна іх госцем быў беларус з Англіі Янка Калбаса. Яшчэ ў тое лета, калі адбываўся Першы з'езд беларусаў свету, ён прачытаў у "Голасе Радзімы" зварот музея да ўсіх суайчыннікаў, які ўтрымліваў просьбу прысылаць цікавыя публікацыі або якія іншыя матэрыялы пра Беларусь. Спадар Янка са сваім сябрам на працягу многіх гадоў збіраў газеты, часопісы, кніжкі на беларускай мове, што выходзілі за мяжой.

— Спадзяваўся, што некалі некаму прыдадуцца, — сказаў наш зямляк.

І сапраўды, пасылку з Англіі вагой 40 кілаграмаў музей прыняў з удзячнасцю. Сустрэча ў музеі атрымалася сардэчнай і шчырай, а праз некалькі дзён і я гутарыла з замежным беларусам на кватэры яго ўнучатай пляменніцы Марыі Водык, дзе ён гасцяваў тры месяцы.

— Спадар Янка, чаму так доўга збіраліся прыехаць? Здаецца, больш за 50 гадоў вы не былі на Радзіме?

— Як прыехаў у Англію, хутка ажаніўся. Быў шчаслівы. Жонка амаль штогод дзяцей прыносіла, а мне трэба было зарабляць грошы, каб іх карміць, апранаць, вучыць, вазіць на адпачынак. Цяпер я, канешне, жыву лепш, больш заможна, маю свой дом, магу прыехаць на Радзіму або запрасіць да сябе сваіх родных. Дзеці жывуць самастойна. Шкада, што жонка памерла, ды і сам захварэў — сэрца.

— А дзеці, унукі ведаюць пра Беларусь, мову, шануюць нашы звычаі?

— Гэта складанае пытанне, нашы дзеці. Маладое пакаленне часцей слаба свядомае і захоўвае традыцыі прырэзаныя. Калі перамянілі свой шлях некаторыя беларусы нашых поглядаў, то што казаць пра дзяцей.

У Брэдфардзе, дзе жыву, з самага пачатку была моцная беларуская суполка. Горад наш індустрыяльны, для работы мелі спрыяльныя магчымасці, добра зараблялі і купілі свой першы грамадскі дом на 16 пакояў. Англічане ставіліся да нас прыхільна. Ім чамусьці падабалася, што рускія, украінскія, польскія, латышскія, эстонскія і беларускія групы мелі паміж сабой добрую сувязь. У нашым доме мы адзначалі разам Тыдзень паняволеных народаў, святкавалі Дзень незалежнасці. Юнакі і дзяўчаты танцавалі ў нацыянальных касцюмах. Дык вось, калі гаварыць пра нашых дзяцей. Таму, хто ажаніўся са сваімі дзяўчатамі, лягчэй было будаваць сям'ю ў адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі, хто з англічанкамі, — таму цяжэй. Бо найбольш цесна дзеці звязаны з маці. Беларускую ж нацыю наогул увесь час нехта ў нечым пераконвае. Усе нацыі жывуць па свайму ладу, а беларусы ўсё на некага азіраюцца.

— У Беларусі ў вас многа сваякоў? Як яны вас сустрэлі?

— Тут у мяне мой клан надта вялікі. Я ўсіх сабраў. Марыя гаворыць, што з некаторымі пазнаёмілася толькі дзякуючы мне, а раней ніколі з імі не сустракалася. Усе яны гавораць па-



**НА ЗДЫМКУ: Янка КАЛБАСА ў Руціцы. Пры відзе роднай хаты і мэндлікаў жыта сэрца земляка перапоўнілася радасцю.**

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСКІ КАНФЛІКТ*



**У ноч з 21-га на 22-е лістапада ў Мінску адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Расійскай Федэрацыі Віктара Чарнамырдзіна, старшынь абедзвюх палат ДзяржДумы Расійскай Федэрацыі Ягора Строева і Генадзя Селязнёва з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам і Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёнам Шарэцкім, на якой выпрацавана кампраміснае рашэнне па ўрэгуляванню канфлікту паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі Рэспублікі Беларусь.**

**На жаль, канфлікт так і не быў урэгуляваны.**

**НА ЗДЫМКУ: у час падпісання выніковых дакументаў.**

*"Прыняцце Канстытуцыі і дэмакратычныя выбары парламента з'яўляюцца адной з вех на шляху ў Савет Еўропы. Мушу заўважыць, што выбары ў Беларусі прайшлі няпроста і, як я разумею, яны яшчэ не закончыліся. Акрамя таго, у Савеце Еўропы патрабуюць, каб краіна дасягнула пэўнага прагрэсу ў правядзенні заканадаўчых і адміністрацыйных рэформаў. Беларусі яшчэ трэба сёе-тое зрабіць у гэтым накірунку. Я маю на ўвазе тыя законапраекты, якія ўжо распрацаваны, але яшчэ не прыняты, і тыя рэформы, якія яшчэ не даведзены да канца.*

*Аднак мне сёння прыемна канстатаваць, што за апошнія некалькі месяцаў супрацоўніцтва Беларусі з Саветам Еўропы значна пашырылася і стала больш эфектыўным. Гэта, на мой погляд, добры сігнал на будучыню. Тым не менш, я хачу заўважыць, што цяперашняя сітуацыя з канстытуцыйнай рэформай не з'яўляецца тым элементам, які можа садзейнічаць больш хуткаму прыняццю Беларусі ў Савет Еўропы.*

*Яшчэ раз мушу сказаць: органы Савета Еўропы пры вырашэнні пытання аб Беларусі будуць кіравацца вельмі дакладнымі крытэрыямі. І пры прыняцці будуць зыходзіць не з нейкіх крокаў, дзеянняў Адміністрацыі Прэзідэнта ці асабіста Аляксандра Лукашэнкі, а з таго, наколькі адпавядае Канстытуцыя Беларусі міжнародным дэмакратычным нормам, наколькі ў вас захоўваюцца правы чалавека і забяспечваецца вяршэнства закона".*

*(З інтэрв'ю газеце "Звязда" Ханса-Пітэра ФУРЭРА, дырэктара палітычнага дэпартамента Савета Еўропы).*

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## ПАДТРЫМКА ВУЧОНЫХ

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб навуковай дзейнасці".**

**Гэтым праватворчым актам прадугледжана дзяржаўная і фінансавая падтрымка навуковай дзейнасці. Агаворана таксама аплата працы навуковага работніка з улікам яго кваліфікацыі, вучонай ступені, звання, адрэгуляваны парадак утварэння часовых навуковых калектываў, ацэнкі вынікаў іх працы, устаноўлена сістэма абароны інтэлектуальнай уласнасці.**

*БЕЛАРУСЬ — ПЕРШАЯ*

## «ГІСТОРЫЯ ЕЎРОПЫ»

**Беларусь — першая краіна ў СНД, якая выдала кнігу "Гісторыя Еўропы". Тры гады ў выдавецтве "Вышэйшая школа" пад навуковым кіраўніцтвам прафесара В. Кошалева рыхтавалася гэтая кніга. Яна выдадзена 40-тысячным тыражом.**

**Ініцыятар праекта выдання "Гісторыя Еўропы" — француз Фрэдэрык Дэлуш. Ён выпусціў кнігу, напісаную за чатыры гады 12 гісторыкамі розных краін і перавыдадзеную ўслед за Францыяй у 20 дзяржавах. Кніга дазваляе зірнуць на еўрапейскую гісторыю з адкрытых пазіцый, без папярэджання, нацыянальнай абмежаванасці.**

*ПОМНІК ГРАФУ РУМЯНЦАВУ*



**Помнік графу Румянцаву вырашылі ўзвесці ў Гомелі. Расійскі вяльможа многа зрабіў для горада як у культурных, так і сацыяльных адносінах. Напрыклад, ён адкрыў тут першую аптэку. Цяпер на месцы, дзе ўстаноўлены бронзавы бюст Румянцава, заканчваюцца апошнія работы.**

*САЦЫЯЛАГІЧНАЕ АПЫТАННЕ*

## ШТО ТАКОЕ ІНТЭЛІГЕНТНАСЦЬ

**Пры правядзенні вучонымі Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі сацыялагічнага даследавання сярод моладзі Мінска і Мінскай вобласці апытаных юнакам і дзяўчатам было зададзена пытанне: "Як вы лічыце, што азначае быць інтэлігентным чалавекам?". Больш чым палова (65 працэнтаў) прадстаўнікоў працуючай і вучнёўскай моладзі 16—25 гадоў адзначылі — "не прыніжаць іншых людзей". Яшчэ адной важнай рысай інтэлігентнасці юнакі і дзяўчаты лічаць здольнасць "рабіць людзям дабро" (54 працэнты). Таксама састаўныя інтэлігентнасці, на думку рэспандэнтаў, — наяўнасць вышэйшай адукацыі (48 працэнтаў) і начытанасць (46 працэнтаў); разуменне мастацтва (45 працэнтаў) і веданне замежных моў (31 працэнт).**

**На пытанне: "Культура якога народа вам асабліва блізкая?", па 57 працэнтаў апытаных указалі на беларускі і рускі народы. Па 4 працэнты апытаных назвалі польскі і ўкраінскі народы.**

*ПА СУСВЕТНЫХ СТАНДАРТАХ*

## У БАРЫСАВЕ РОБЯЦЬ ШТУЧНУЮ НЫРКУ

**Найбуйнейшы ў Еўропе вытворца апаратаў штучнай ныркі беларуска-германскае сумеснае прадпрыемства "Фрэбор" плануе ў 1997 годзе павялічыць аб'ём вытворчасці на 40 працэнтаў. Завод гэтага сумеснага прадпрыемства, які працуе ў Барысаве, паспяхова прайшоў міжнародную сертыфікацыю па стандартах ДІН. Асноўнымі спажыўцамі яго прадукцыі сёння з'яўляюцца медыцынскія ўстановы ў краінах далёкага замежжа. У той жа час унутраны рынак можа забяспечыць завод заказамі толькі на 10 працэнтаў.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ГРУПА брытанскіх дзяцей прывезла з Лондана ў Мінск 10 тон грузу — калядныя падарункі для выхаванцаў Асіповіцкага дому-інтэрната.

У ВІЦЕБСКУ к канцу года будзе выпушчаны першы беларускі аўтамабіль, прызначаны для аварыйна-выратавальных службаў.

ТОЛЬКІ 164 прадпрыемствы з 549, якія ўключаны ў рэспубліканскі пералік аб'ектаў, што падлягаюць сёлета прыватызацыі, падалі прапановы на акцыяніраванне.

У МАЛЕНЬКАЙ царкве, пабудаванай нядаўна на тэрыторыі Віцебскай дзіцячай выхаваўча-працоўнай калоніі № 3, адбылося першае вянчанне: бралі шлюб васемнаццацігадовы Андрэй Туболец, які знаходзіцца ў зняволенні за здзейсненае злачынства, і Святлана Пархімовіч, вучаніца Мінскага ПТВ-43.

КОЛЬКАСЦЬ беспрацоўных у Беларусі на 1 лістапада склала 185 236 чалавек. Узровень беспрацоўя ў дзяржаве складае 3,33 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва.

ПІНСКІ гідрамеліярацыйны тэхнікум адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе. За паўстагоддзя з яго сцен выйшлі больш за 12 тысяч спецыялістаў, якія працуюць у меліярацыйных арганізацыях Беларусі.

ДА ПЕРШАЙ аперацыі на сэрцы рыхтуюцца ў Гомельскім абласным кардыялагічным дыспансеры. Дасюль такія аперацыі праводзілі мінскія кардыяхірургі.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ Міжнароднага інфармацыйна-турысцкага цэнтра Рэспублікі Беларусь адбылася ў Мінску. Перад цэнтрам стаіць нялёгкая задача — стварыць прывабны імідж Беларусі на турысцкім рынку.

СПОЎНІЛАСЯ 85 гадоў архіепіскапу Брэсцкаму і Кобрынскаму Канстанціну. Павіншаваць уладыку прыбылі мітрапаліт Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Васілій, прадстаўнікі праваслаўнага духавенства.

ЗА ДВА мінулыя гады 31 працэнт беларускіх сем'яў адмовіліся ад жадання нарадзіць дзіця з-за цяжкага матэрыяльнага становішча. Другой важнай прычынай з'яўляецца адсутнасць жылля.

ПАПУЛЯРНАМУ ў рэспубліцы кампазітару Эдуарду Ханку прысвоена званне народнага артыста Беларусі. У гэтыя дні кампазітар адзначае 25-годдзе сваёй творчай дзейнасці. Эдуард Ханок сцвярджае, што пасля яго застанецца толькі песня "А я лягу, прылягу".

*САЦЫЯЛЬНЫЯ АПТЭКІ*



**Першая ў Беларусі сацыяльная аптэка адкрылася па вуліцы Глебкі, дом 118, у Мінску. Яна належыць беларуска-германскаму сумеснаму прадпрыемству "Белфарм". Асартымент лячэбных прэпаратаў і, вядома, іх якасць нічым не адрозніваюцца ад тых, што прапануюцца насельніцтву ў іншых аптэках рэспублікі, але цэны на іх тут ніжэйшыя на 20—30 працэнтаў.**

**Праект "Сацыяльная аптэка" стаў магчымым пры садзейнічанні расійскай асацыяцыі дзелавога супрацоўніцтва з ФРГ "Ордас". Плануецца адкрыць такія ж аптэкі ў Віцебску, Гомелі, Гродне.**

**НА ЗДЫМКУ: часта карыстаюцца паслугамі сацыяльнай аптэкі мінскія пенсіянеры.**

*ПАПРАЎКА*

**У папярэднім (47-м) нумары "Голасу Радзімы" не па віне рэдакцыі дапушчана памылка ў інфармацыі аб адкрыцці помніка Ф. Скарыне ў Празе. Па-першае, як паведамілі нам у Міністэрстве культуры Беларусі, гэта не помнік, а паркавая скульптурная кампазіцыя, а па-другое, вышыня яе не 25, а каля 2,5 метра.**

**Просім прабачэння ў нашых чытачоў.**

## ДЗЕ ТЛЕЮЦЬ КОСЦІ БЕЛАРУСКІЯ

# СІБІРСКІЯ КУРАПАТЫ

Падзеі, якія падштурхнулі мяне напісаць гэты артыкул, адбыліся ў 1979 годзе ў Калпашаве Томскай вобласці напярэдадні чырвонага Першамая і ў наступныя за ім дні. Гарадок Калпашава невялікі і да нядаўняга часу быў мала вядомы. У памяці не аднаго пакалення гэта Нарым. Калпашава ж — некалі адміністрацыйны цэнтр Нарымскай акругі, асобай тэрытарыяльнай адзінкі ў складзе Заходне-Сібірскага краю, адведзенай для знішчэння "ворагаў народа".

Калпашава — сібірскія Курапаты. Так яго называюць у Сібіры сёння. З усяго былога Савецкага Саюза — з Алтая, з Беларусі, з Масквы і Ленінграда звозілі сюды "ворагаў народа" і членаў іх сямей. А больш за ўсё — сялян. У непралазных балотах, тайзе, якую яны карчавалі з дапамогай першабытных прыстасаванняў, ляжаць косці не адной тысячы ўраджэнцаў Беларусі. У час калектывізацыі ў Нарымскую акругу было саслана нямала сямей раскулачаных. Аб маштабах гэтай высылкі сведчыць лічба — 192 000 чалавек (сярод іх нашых землякоў было не менш 35 тысяч. — І. К.), прычым колькасць тых, хто выжыў на працягу першых двух-трох гадоў, складала каля 40 працэнтаў. Апошняя лічба ашаламляе, але не забывайце, пры якіх абставінах спецпераселенцы траплялі ў ссылку: альбо па холадзе па зімніках, альбо — часцей так яно і было — на баржах за кароткае паўночнае лета. А ўладкоўвацца даводзілася на голым месцы, са старымі і дзецьмі на руках, маючы мінімум пасяўнога матэрыялу і без вопыту вырошчвання хлеба на балотах і ў тайзе.

Масавыя расстрэлы ва ўнутранай турме НКУС у Калпашаве пачаліся ў другой палове трыццатых, калі сталі фабрыкавацца дзікія, фантастычныя "справы", накшталт спраў "Польскай арганізацыі вайсковай", "паўстанцкага цэнтра" і іншых. У час правядзення масавай акцыі па "ліквідацыі ворагаў народа" ў Нарымскі акруговы аддзел НКУС на баржах сталі дастаўляць рэпрэсіраваных з Аляксандраўскага, Каргасацкага, Парабельскага, Калпашаўскага раёнаў.

Што ўяўляў сабой будынак аддзела НКУС? Ён знаходзіўся за 30—40 метраў ад берага ракі Об, быў акружаны прыкладна трохметровым плотам па перыметру 150х150 метраў. Недалёка ад адміністрацыйнага корпуса НКУС знаходзіўся будынак турмы, які меў шэсць камер. Тут жа, у будынку турмы, у адной з камер, выконваліся прыгаворы тройкі НКУС па Захсібкраю, Асобай нарады, Камісіі НКУС і Пракурора СССР. Трупы расстраляных пасля перасыпалі гашанай вапнай (каб лішні раз не закопваць да прыбыцця чарговай партыі асуджаных. — І. К.) у ямах, падрыхтаваных у двары. Ямы з трупамі раўняліся з зямлёй і нічым не пазначаліся.

Толькі ў адзін дзень 8 снежня 1937 года такім чынам было знішчана звыш 200 чалавек. Назаву толькі некаторыя ўстаноўленыя прозвішчы нашых землякоў: Адамскі Браніслаў Генрыхавіч, Бараноўскі Аляксандр Фаміч, Белых Фёдар Яфімавіч, Варанецкі Сцяпан Вікенцьевіч, Галдоўскі Самуіл Авакумавіч, Грышын Іван Паўлавіч, Здановіч Іван Васільевіч, Іваноўскі Іосіф Мікалаевіч, Кісель Іван Іосіфавіч, Казак Іван Мартынавіч, Калмакова-Асухоўская Ганна Эдуардаўна, Кужэўскі Фёдар Францавіч, Левандоўскі Уладзімір Мікітавіч, Татыржа Баніфат Адамавіч і іншыя.

Большасць ні ў чым невінаватых грамадзян было расстраляна ў Калпашаве ў перыяд з 8 мая 1937 года па 4 мая 1943 года. Паводле даных, атрыманых з матэрыялаў і дакументаў пракуратуры, упраўлення ФСК па Томскай вобласці, ваеннага трыбунала Сібірскай акругі, можна меркаваць, што тут было знішчана больш за 900 ураджэнцаў Беларусі.

Колькі ўсяго чалавек было расстраляна ў Калпашаве ў самы пік рэпрэсій, устанавіць ужо немагчыма. Можна меркаваць, што ў даным пахаванні ляжыць не менш 4 тысяч безвінна забітых.

Пасля вайны будынак акруговага аддзела НКУС быў знесены. Прайшлі гады... Наступ ракі на горад прывёў да таго, што з 1960 года тэрыторыя былога НКУС стала абрушвацца ў Об. Пачалі паказвацца брацкія магілы расстраляных. Улады занепакоіліся. Пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле прадстаўнікоў спецыяльнага падраздзялення дзяржбяспекі праводзіліся так званыя "буравыя работы" на тэрыторыі, што раней належала акруговаму аддзелу НКУС. Першая стадыя работ па хімічнаму знішчэнню пахаванняў праведзена ў 1968 годзе.

Тэхналогія работ была такой. Бурылі пэўныя шчыліны. Пры выхадзе касцей бурэнне шчылін станавілася ўпарадкаваным. У шчыліны ўстаўлялі жалезныя трубкі, засыпалі рэчыва белага колеру і залівалі многа вады з цыстэрны. Потым кожная шчыліна засыпалася грунтам.

Пасля сканчэння работ "геолагі" дзень-два "прасавалі" тэрыторыю бульдозерам, утрамбоўваючы верхні слой, разрыхлены бурэннем. Рабіла ўсё гэта спецыяльнае падраздзяленне КДБ СССР, якое было прызначана для знішчэння слядоў масавых расстрэлаў. Аналагічную работу праводзіла гэтае падраздзяленне ў Катыні і іншых месцах масавых пахаванняў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза аж да 1985 года.

...І вось прыйшла вясна 1979 года. Яна вызначалася высокім узроўнем паводкі, і ў выніку апоўзняў пасыпаліся чалавечыя чэрапы і косці з аголенага масавага пахавання. Першаадкрывальнікамі былі хлапчукі. Яны падбіралі чэрапы, гулялі з імі, бегалі па горадзе з чэрапамі на палках, прыносілі іх дадому.

Абвал 30 красавіка 1979 года агаліў вялізную яму з муміфіцыраванымі трупамі. Многія з іх захаваліся выключна добра. Калі чэрапы і косці пры абвале берага ператвараліся ў кавалкі і ішлі на дно, то лёгкія муміфіцыраваныя астанкі рака несла на поўнач на вачах усяго горада, таму што большая частка сённяшняга Калпашава размешчана ніжэй па цячэнні: і рачны вакзал, і забудаваны прыватнымі дамамі жылы раён...

Асаблiва непрыемнай была жудасная сімвалічнасць таго, што адбывалася. Я н ы выходзілі літаральна з-пад зямлі — сотні трупаў з дзіркай у патыліцы, і не толькі шкілеты, косці людзей, а ў вялікай колькасці муміфіцыраваныя целы, якія так добра захаваліся, што некаторых, расстраляных ледзь не паўвека назад, жыхары прыгарадаў праз некалькі дзён павязуць у трупярню, прыняўшы за тапельцаў.

Улады спахапіліся не адразу. Усе рыхтаваліся да маючых адбыцца майскіх урачыстасцей. Ужо самі чуткі выклікалі непрыемны асадак у душах мясцовых жыхароў. Такое... Нехта, можа, і пахаваў бы нябожчыка, але акругу абляцела больш ясная каманда: "Бандыты, ворагі народа, толькі — у раку. Няхай сабе плывуць". Багром, вяслом, палкай адштурхнуць на быстрыню — нясіся далей, да Нарыма, зусім побач — туды, дзе адбываў ссылку таварыш Сталін, прамы адказчык за ўчыненае, які добра ведаў, якіх такіх бандытаў прыслалі па яго ўказцы ў балоты, у тайгу на пагібель.

Нікому і ў галаву не прыходзіла перапахаваць расстраляных. Кулявыя дзіркі ў чэрапах гаварылі пра тое, што з людзьмі ўжо аднойчы абышліся крайне жорстка.

У Калпашаве ішла двухтыднёвая бітва жывых з мёртвымі. Метадычна, няспешна, на будзённым фоне правінцыяльнага гарадка, дзень у дзень, ноч за ноччу...

Пахаванне вырашана было змыць у раку. Тыдзень вяліся падрыхтоўчыя работы, а к 10 мая ў Калпашава прыбылі двухтысячасільныя буксіры. Іх паставілі кармой да берага, намертва замацаваўшы лябёдкай. На поўных абаротах запрацавалі вінты, і вада, якую яны адкідвалі, ударыла пад абрыў. Бераг мылі кругласутачна. Трупы з ям сталі падаць у ваду.

У гэты час на Обі, акрамя суднаў, што размывалі бераг, знаходзіліся яшчэ катэры і лодкі, каб перахопліваць трупы, што плылі. Тое, як "працавалі" катэры, мог бачыць увесь горад. Трупы вылоўлівалі баграмі, чаплялі да ног альбо да пояса металічныя балванкі ці цэглу, якую складвалі папарна і перакручвалі дротам. Тых, хто ўпарціўся, не ішоў на дно, — секлі вёсламі на кавалкі. Дзень за днём, ноч за ноччу... Некаторыя целы былі ўсё ж не злоўлены — іх бачылі потым за сотні кіламетраў уніз па цячэнні.

Горад Калпашава перажываў цяжкія, ні на што не падобныя дні.

Чалавецтва ведала адкрытыя зверствы, крывавыя войны, масавыя пакаранні і страшныя катаванні, але любым злачынствам ва ўсе часы спадарожнічалі нейкія асаблівыя гістарычныя абставіны і адгаворкі аб вышэйшай мэтазгоднасці, якімі апраўдвалі свае дзеянні палітыкі і каты. У Калпашаве гэтага не было. Тут свае забівалі сваіх, ужо забітых аднойчы продкаў так бязлітасна, як некалі жывых. Але ў адрозненне ад першага разу — зусім бессэнсоўна.

У сакавіку 1993 года "калпашаўская справа" была закрыта за даўнасцю гадоў і "адсутнасцю саставу злачынства ў дзеяннях службовых асоб".

Падвядзём жа і мы сваю рысу пад хлуснёй мінулых гадоў. Справа была для маскоўскіх і томскіх уладаў звыклая і простая. Аднойчы забітыя зноў выйшлі наверх, і патрабаваўся новы прысуд, каб спыніць вылазку "класавага праціўніка". Патрабавалася пацвярджэнне старога прысуду. Ніхто, акрамя некалькіх маўклівых людзей, не ведае сёння, у якім кабінеце і пад чыім старшынствам збіраўся новы склад Асобай нарады.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**







**Восень у Белавежскай пушчы поўная клопатаў. Супрацоўнікі нацыянальнага парку вядуць назіранні за жывёльным светам, біялагічнымі змяненнямі ў пушчанскіх лясах. Так, замест загінуўшых дрэваў і на месцах высечак вырашана зрабіць штучную падсадку саджанцамі розных парод. З наступленнем халадоў бліжэй да чалавечага жылля пацягнулася лясная жыўнасць. Пра яе таксама трэба паклапаціцца.**

**НА ЗДЫМКАХ:** наменік генеральнага дырэктара па навукова-даследчай рабоце доктар біялагічных навук Барыс САВІЦКІ (справа), навуковы супрацоўнік Аляксандр СТРАЛКОЎ і малодшы навуковы супрацоўнік Наталля АНДРАЙЧУК на ўчастку, дзе зроблена падсадка лесу; насельнікі пушчы.

Фота Рамана КАБЯКА.

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

І ўсё ж працэс далучэння уніятаў да Рускай праваслаўнай царквы адбываўся не так мірна і спакойна, як таго жадалі Найсвяцейшы Сінод, мясцовыя духоўныя асобы. Прычына: адданасць вернікаў сваёй уніяцкай рэлігіі. Гэтая ж адданасць была і найсур'ёзнейшай перашкодай на шляху правядзення ўвогуле русіфікацыі карэннага насельніцтва беларускай зямлі. Без перабольшвання актыўней за ўсіх супраціўляліся такой палітыцы самі служыцелі уніяцкага кліру. Вынікае гэта і з таго, што ў некаторых школах, якія ствараліся нават у пачатку XIX стагоддзя уніяцкай царквой, мовай выкладання па-ранейшаму была беларуская.

Вялікая прыхільнасць пераважнай большасці уніяцкага духавенства да ўсяго беларускага станоўча ўплывала таксама на захаванне, шанаванне народных традыцый сярод насельніцтва ўсяго прыходу, а найперш — непасрэдна ў сем'ях святароў. Не выпадкова адсюль выйшла нямала людзей, якія сваёй дзейнасцю шмат зрабілі для развіцця культуры, узняцця аўтарытэту роднага краю. Сярод іх можна назваць і прафесара права Віленскага універсітэта Ігната Даніловіча (1788—1843). Працаваць яму даводзілася доўгі час у розных універсітэтах па-за межамі Бацькаўшчыны, але ўсюды лічыў сябе, паводле заяў сучаснікаў, "патрыётам-літвінам" (адна з назваў у мінулым беларусаў. — **Л. Л.**). Чым бы ні займаўся вучоны, ён увесь час думаў пра гаротны стан беларускай культуры і мовы на іх гістарычнай тэрыторыі. Шмат клопатаў у яго было аб тым, як захаваць некранутай мову Літоўскага Статута 1588 года, бо ў многіх яго тагачасных польскіх і рускіх перакладах мелася багата істотных памылак. Каб пазбегнуць на будучыню такіх хібаў, ён прапанаваў пры перавыданні агульнаімперскіх законаў "замест небяспечнага перакладу статута на цяперашнюю вялікарускую мову, перадрукаваць без аніякіх адмен сучасным грамадзянскім шрыфтам Віленскае выданне 1588 г." Гэтая прапанова не знайшла падтрымкі, што вельмі расчаравала Ігната Даніловіча, але не прымусіла адмовіцца ад задуманага. Да канца жыцця шукаў — праўда, марна — падтрымкі ва ўплывовых людзей. У данясенні ад 8 верасня 1828 года на імя міністра народнай асветы князя Лівена ён пісаў: "Самыя далёкія патомкі літоўскіх плямёнаў будуць благаслаўляць в. с., калі гэты найкаштоўнейшы для іх заканадаўчы помнік будзе выратаваны ад пагібелі з належным стараннем і спраўнасцю... калі першапачатковая думка заканадаўца не будзе заменена друкарскімі памылкамі, памылковаю арфаграфіяю або невуцкімі знакамі прыпынку".

З сем'яў уніяцкіх свяшчэннікаў паходзяць прафесар статыстыкі Віленскага універсітэта Ігнат Анацэвіч (1780—1845), які шмат зрабіў для вывучэння гісторыі Беларусі і Літвы, добра вядомы археолаг, этнограф, гісторык і выдавец Адам Кіркор (1819—1896), працы якога садзейнічалі фармаванню гістарычнай свядомасці ў беларускага народа, абуджэнню павагі да свайго мінулага, духоўнай спадчыны. У жахлівы час, калі не толькі не прызнавалася, але і адкрыта зневажалася ўсё беларускае (тады яно яшчэ многімі атаясамлівалася і з літоўскім), вучоны не без гонару пісаў у 1861 годзе сваёй жонцы: "Ты не ведаеш ні Літвы, ні яе гісторыі. Літва — гэта той цудоўны юнак, які нарадзіўся ў аддаленую невядомую ці прынамсі мала вядомую эпоху, які вырас на цвёрдым падмурку, з чыстай, высакароднай душой, з ахвяраваннем, з натхненнем; як шалёны, кінуўся ён у вялікі свет... Я літвін, — ніколі не зніштожыць у мне гэтага пачуцця. Я люблю сваю радзіму з усім натхненнем юнака, з усёй адданасцю мужчыны".

Уніяцкае духавенства ёсць падставы пахваліць за тое, што ў 1791 годзе ў сям'і святара Бялавіцкай Ульінскай царквы Лявона Гамаліцкага нарадзіўся сын, названы Міхаілам, які ў 1815 годзе стаў доктарам медыцыны, з 1824 па 1827 год узначальваў кафедру фізіялогіі ў Віленскім універсітэце. Выйшаўшы па стану здароўя на пенсію, ён цалкам аддаўся вывучэнню археалогіі Беларусі і гісторыі Вільні і стаў у 1857 годзе адным з першых членаў арганізаванай у гэтым горадзе археалагічнай камісіі.

Гонар уніяцкаму духавенству робіць і той факт, што адзін з яго святароў даў для нацыянальна-патрыятычнага беларуска-польскага руху такую славутую асобу, як Франц Савіч (1815—1846; родам з вёскі Віляцічы Пінскага павета Мінскай губерні). Ён не пайшоў па слядах свайго бацькі і мо таму, што не бачыў перспектывы ва уніяцкай царквы з-за настойлівага наступу на яе рускага праваслаўнага духавенства. Малады Франц падаўся ў Ваенную медыка-хірургічную акадэмію ў Вільні і ўжо будучы студэнтам трэцяга курса стварыў патаемную арганізацыю "Дэмакратычнае таварыства". Шавіністычная пазіцыя Расійскай імперыі да народаў былой Рэчы Паспалітай не зрабіла з Франца Савіча ненавісніка ўсяго рускага. Яго крэда: "...усе нацыі роўныя, і ніхто не павінен адчуваць нянавісць адзін да аднаго, нягледзячы на нацыянальныя адрозненні (рускі, паляк або яўрэй)".

Мог ганарыцца сваім сынам Янам і уніяцкі свяшчэннік з Лепельшчыны Трафім Хруцкі. Пасля вучобы на факультэце вольных мастацтваў у Полацкай езуіцкай акадэміі (20-я гады XIX стагоддзя) малодшы Хруцкі — Іван (1810—1885) паступае ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў і становіцца ў 1839 годзе яе акадэмікам. Пад уплывам тых падзей, што адбываліся ў рэлігійным жыцці Расіі, ён адышоў ад уніяцкіх традыцый бацькі і, відаць, падтрымаў скасаванне ў 1839 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі, бо ў адваротным выпадку не стварыў бы ў 1850 годзе партрэта мітрапаліта Літоўскага Іосіфа Сямашкі.

У сем'ях уніяцкіх святароў нарадзіліся і такія слынныя сыны нашага народа, як першы консул Расіі ў Японіі, аўтар кнігі "Аб каранях японскай мовы" Іосіф Гашкевіч (1814—1875), адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, аўтар чатырохтомнага зборніка "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" (на польскай мове) Ян Баршчэўскі (1794 ці 1790—1851).

Хочацца звярнуць увагу і на такі факт, што і дзед рускага пісьменніка Фёдара Дастаеўскага быў уніяцкім свяшчэннікам. Якія-небудзь звесткі аб магчымым уплыве дзеда на ўнука ў мяне адсутнічаюць, затое на сыне святара, г. зн. бацьку будучага пісьменніка, Міхасю Дастаеўскім, лекару па спецыяльнасці, напэўна ж мог станоўча адбіцца прыстойны сямейны ўклад жыцця паводле уніяцкіх традыцый, бо ў адваротным выпадку наўрад ці з'явіўся б на свет геній Фёдара Дастаеўскага.

І такія прыклады можна было б доўжыць, што яшчэ больш выявіла б станоўчую ролю уніяцкіх свяшчэннікаў у захаванні і прымнажэнні духоўных традыцый беларускага народа, паказала б вялікую адпаведнасць гэтай канфесіі яго нацыянальна-культурным запатрабаванням. Прыведзеных фактаў, думаю, больш чым дастаткова, каб паверыць наступным словам нашага выдатнага гісторыка Мікалая Улашчыка: "Наколькі многа высунула навуковых дзеячаў вясковае уніяцкае духавенства, настолькі бедным сталася праваслаўнае, хаця ўмовы для іх былі нязмерна больш спрыяльныя". Паводле А. Цвікевіча, у Берасцейскай царкоўнай "вуніі захоўвалася стыхія беларушчыны ...інтэлігентныя вуніяцкія сем'і былі носьбітамі ідэі беларускай самабытнасьці. На грунце вуніі як асаблівай "мужыцкай веры" беларуская інтэлігенцыя першай паловы XIX в. імкнулася збудаваць будучыню Беларусі, — ці то разам з Польшчаю, ці асобна ад яе. На вунію мясцовыя работнікі пасьне і глядзелі, як на мост да захаду — мост, які іх адначасова адлучаў ад усходняга маскоўска-праваслаўнага сьвету".

Аднак было б памылкай думаць, што з сямей уніяцкіх свяшчэннікаў выходзілі толькі такія карысныя для беларускай справы людзі. Зразумела, маглі назірацца і з'явы адваротнага характару, калі ў сем'ях уніяцкіх свяшчэннікаў панаваў польскі ці рускі дух і іх дзеці, стаўшы дарослымі, усяляк садзейнічалі ўмацаванню і распаўсюджванню чужых для бераускай зямлі пачаткаў. Вось зусім процілеглы ўсім апісаным вышэй прыклад, які датычыць рэдактара рэвалюцыйнага часопіса "Вестник Западной России" К. Гаворскага (1811—1871), сына уніяцкага свяшчэнніка з Віцебшчыны. Толькі дзякуючы стараннням К. Гаворскага, рэдакцыйны калектыў гэтага часопіса, які з 1864-га па 1871 год выдаваўся ў Вільні, паспеў так шмат шкоды нарабіць па прапагандзе сярод беларускага насельніцтва ідэй аб непадзельнасці Расіі, нібыта спрадвечным яго імкненні да зліцця з рускай народнасцю, па абароне праваслаўя ад "варожых нападкаў" каталіцызму. Вядомы рускі гісторык і этнограф А. Пыпін пісаў, што ў Заходне-Рускім краі гэты часопіс "на справе стаў адным з тых сяброў, якія бываюць горш за ворагаў". У "заслугу" К. Гаворскаму могуць быць пастаўлены разгром Віленскага археалагічнага музея, зрыў планаў па адкрыцці Віленскай духоўнай семінарыі, прапаганда неабходнасці насаджэння ў Паўночна-Заходнім краі рускіх землеўладальнікаў у мэтах русіфікацыі яго насельніцтва. К. Гаворскі наўмысна пазбягаў ужываць у сваіх публікацыях назву Беларусь.

Даволі цікавая асоба паходзіць з сям'і незаможнага уніяцкага свяшчэнніка з Сакольскага павета Гродзенскай губерні. Маю на ўвазе гісторыка і этнографа Міхаіла Каяловіча (1828—1891). Як вучоны, ён быў вельмі таленавітым і пладавітым. Толькі, на жаль, паддаўся ўплыву рускіх буржуазных гісторыкаў і, каб дагадзіць афіцыйным уладам, пайшоў на адмаўленне за беларусамі, украінцамі і літоўцамі права на незалежнае нацыянальнае развіццё. Такое негатыўнае стаўленне да гісторыі і лёсу свайго народа ўсё ж вельмі здзіўляе, бо ў доме Каяловічаў, як і ў кожнай уніяцкай сям'і таго часу, "захаваўся амаль у незакранутым выглядзе стары беларускі быт, беларуская мова, старадаўнія звычаі, успаміны". Відаць, можна пагадзіцца з думкай Аляксандра Цвікевіча, што "хваравітае замілаванне да Расіі" ўзнікла ў Каяловіча таму, што ён глядзеў на апошнюю, як на абаронцу беларусаў, украінцаў і літоўцаў "ад гістарычнага польскага ўціску". І ўсё ж здрада М. Каяловіча нацыянальным інтарэсам свайго народа — гэта, на маю думку, ужо і вынік разлажэння уніяцкага духавенства, што з цягам часу пачало адбывацца ў яго асяроддзі пад уплывам антыбеларускай палітыкі Рускай праваслаўнай царквы і мясцовых свецкіх улад.

Вельмі далёкім ад нацыянальных патрэб беларусаў заставаўся вядомы чарнасоценец, дэпутат Дзяржаўнай думы 2—4-га скліканняў Уладзімір Пурышкевіч, гэты, паводле характарыстыкі Максіма Багдановіча, "адростак беларускага уніяцкага духавенства". Усё гэта тлумачыцца тым, што пад уплывам Рускай праваслаўнай царквы многія былыя знакамітыя уніяцкія кланы адыходзілі ад традыцый, карэнным чынам мянялі ў адваротны бок свае дачыненні да беларускай культуры і мовы, што ў такім жа накірунку адбівалася і на сямейным выхаванні дзяцей.

У цэлым жа уніяцкая царква, нягледзячы на ўсе падкопы да яе як з боку польскага каталіцкага, так і рускага праваслаўнага духавенства, моцна трымалася беларускіх нацыянальных традыцый. Яна была ў той час адзінай канфесіяй, якая будавала сваю дзейнасць у адпаведнасці з карэннымі інтарэсамі беларускага народа, ахоўвала яго і ад паланізацыі, і русіфікацыі, за што вельмі не паважалася ідэолагамі гэтай антыгуманнай палітыкі. З усіх хрысціянскіх канфесій толькі уніяцкая не ставіла перад сабой мэтай асіміляваць беларусаў ці далучыць іх да якой-небудзь дзяржавы..

## 7. СКАСАВАННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ УНІІ

Заўзятых праціўнікаў грэка-каталіцкай царквы на Беларусі зусім не задавальнялі ні ў першыя гады пасля яе далучэння да Расіі, ні пазней маштабы і вынікі барацьбы з гэтай канфесіяй і тэмы распаўсюджання праваслаўя. Ніяк не спраўджваліся надзеі, што уніяты самі, стыхійна пацягнуцца да праваслаўнай веры. Калі штосьці і дасягнута было ў гэтай справе, дык толькі коштам вялікіх угавораў, розных абяцанняў і падману. Бачачы, што адсутнічаюць рэальныя магчымасці для добраахвотнай уніі паміж грэка-католікамі і праваслаўнымі, Найсвяцейшы Сінод пры падтрымцы свецкай улады Расійскай імперыі вырашыў дасягнуць такога з дапамогай тыповых для іх адміністрацыйных захадаў. Была ўведзена сістэма заахвочвальных мер для губернатараў і іншых кіруючых асобаў, а таксама памешчыкаў за схіленне уніятаў у праваслаўе. Дзеля атрымання як мага большай грашовай прэміі многія чыноўнікі проста не ведалі меры ў сваіх дзеяннях. Заўважу, што за Рэччу Паспалітай рэнегаты праваслаўя з боку маёмных класаў куды слабей насядалі на сваіх супляменнікаў, якія не жадалі прымаць каталіцкую веру.

За адыход ад традыцыйнай рэлігіі бацькоў сёе-тое часам парападала і радавым вернікам. Аб гэтым ёсць звесткі ў біёграфа мітрапаліта Іосіфа Сямашкі Г. Кіпрыяновіча. Ён, да прыкладу, прыводзіць факт, як мяшчанам Вілейкі за адмову ад уніяцкай веры "давалі грошы і гарэлку, чаму некаторыя згаджаліся і слепа прысягалі на прыняцце праваслаўя".

Планы канчатковага, франтальнага знішчэння уніяцтва распрацоўваліся ў вялікай тайне ад народа, для чаго быў створаны спецыяльны сакрэтны камітэт на чале з біскупам Іосіфам Сямашкам, які пасля стараннай апрацоўкі яго высокімі асобамі праваслаўнага духавенства і царскай адміністрацыі станавіўся ўсё больш сваім для іх чалавекам. У той час ужо, па сутнасці, ад гэтых структур залежала прызначэнне таго ці іншага духоўніка на пасаду уніяцкага біскупа.

Погляды І. Сямашкі на веру сваіх бацькоў карэнным чынам сталі мяняцца з таго часу, калі ён у 1822 годзе ўладкаваўся на працу ва уніяцкі дэпартамент Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Адкрыта ж спрыяць ліквідацыі і далучэнню беларускіх уніятаў да праваслаўнай царквы ён пачаў у канцы 20-х гадоў, будучы асэсарам грэка-уніяцкай царквы, а затым прэлатам. Самай важкай падставай пайсці на такое зліццё ён лічыў існаванне нібыта рэальнай пагрозы канчатковага паглынання уніятаў польскім касцёлам, масавае іх апалячванне, чаго, зразумела, ніяк не збіраліся дапусціць духоўныя і свецкія ўлады Расійскай імперыі, якія лічылі беларусаў спрадвеку рускім па культуры і мове народам, г. зн. сваім. Адсюль, значыцца, яго трэба ўсяляк ратаваць ад польскай асіміляцыі. Да таго ж яе ў пэўнай ступені праводзілі і тыя уніяцкія цэрквы, дзе былі моцныя пазіцыі польскага элемента.

У сваіх даносах І. Сямашка не шкадаваў фарбаў, каб пераканаць Найсвяцейшы Сінод, адміністрацыю Расійскай імперыі, што над уніяцкай царквой згушчаюцца хмары каталіцызму і таму яе вернікаў трэба неадкладна ратаваць ад поўнай паланізацыі. Так, у яго запісцы ад 5 лістапада 1827 года паведамлялася: "Уніяцкае духавенства, у час Польшчы некалі рымскаму (г. зн. каталіцкаму. — **Л. Л.**) варожае, цяпер узаемнасцю карысці амаль з ім злучылася". На думку І. Сямашкі, тагачаснае уніяцкае духавенства больш правільным называць "хутчэй ніжэйшым разрадам рымскага, як самабытным саслоўем... яно ўвяло замест старажытных грэчаскіх абрадаў — большую частку рымскіх, замест выразнага для народа богаслужэння — ціха чытаныя мшы... Засталася адзіную амаль вызначальнаю рысаю славянская мова, у богаслужэнні ўжываемая — але і гэтая пастаўленая з рымлян святарамі, а нават прыроднымі уніятамі штодзённа скажаецца і неахвотна выкарыстоўваецца — у павучанні народа па большай частцы ўжываецца польская мова, для яго незразумелая; а нават чуў, што па многіх месцах вучаць яго самым важным малітвам на гэтай мове". Каб прыцягнуць увагу да праблемы, І. Сямашка прадракае: "Мо, даволі аднаго спрыяльнага выпадку, і паўтара мільёна рускіх па крыві і мове сваёй (г. зн. беларусаў. — **Л. Л.**) адчужанымі будуць ад старэйшых сваіх братоў". Хто разумеўся пад "старэйшымі братамі", думаецца, чытачу зразумела і без тлумачэнняў.

Магчыма, дзесьці І. Сямашка і перабольшыў ступень паланізацыі уніяцкай царквы (асабліва ў сцвярджэнні, што і тут у час пропаведзяў польская мова пераважала над беларускай), з мэтай паскорыць прыняцце захадаў па далучэнні яе вернікаў да праваслаўя. Аднак пагроза страты імі сваёй беларускасці і сапраўды з кожным годам павялічвалася. Цяпер ужо беларуская мова, мясцовыя народныя звычаі, праваслаўныя абрады займалі зусім не тое месца ва уніяцкай царкве, як гэта было да далучэння нашага краю да Расіі.

Леанід ЛЫЧ.

Працяг.
Пачатак у №№ 39—47.

# ЗА НАЙЛЕПШУЮ ПРЫШЛАСЦЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

беларуску, той, хто мае вышэйшую адукацыю, і той, хто не мае, але ўсе вядуць гутарку па-беларуску. Я ім так і сказаў: давайце думаць і гаварыць у беларускай мове. Як будзеце пісаць да мяне, то толькі па-беларуску. А калі прыедзеце да мяне і пачняце гаварыць на чужаземнай мове, то я загавару з вамі на ангельскай.

Янка Калбаса сказаў: "Усе нацыі жывуць па свайму ладу, а беларусы ўсё на некага азіраюцца". І я спытала ў яго: "Як вы думаеце, чаму беларусы так лёгка адракаюцца ад усяго свайго? Гэта што — характар?" — "І ў нас сэрца баліць, а што мы можам?" — адказаў зямляк.

Хаця за доўгія гады працы, калі даводзілася і даводзіцца часта сустракацца з беларусамі-эмігрантамі, заўважаеш, што ў тых, хто разлучаны з Бацькаўшчынай, нацыянальнае пачуццё больш абвостранае, яны больш шануюць сваю мову, лепш ведаюць гісторыю. Сапраўды, як да святога месца, маюць пачуцці да роднай зямлі. Як пацвярджэнне гэтым думкам, прачытала нядаўна ў Васіля Віткі: "Даўно заўважана, як беларусы здольны абжываць неабжытае. Але не менш каштоўная і тая ўласцівасць іх душы і характару, калі на новым месцы раптам абуджаюцца іх даўно паснулыя пачуцці па ўсім родным і дарагім. І па забытых звычаях, і па ўспомненай мове, і песні. Магчыма, і ў нас потым знайшоўся б свой Майсей, каб, павадзіўшы яшчэ сорак год і па пустыні, нарэшце прывесці ў родныя палесціны".

## РАСКАЖУ ПРА ЦУДОЎНУЮ КАЗКУ

— Колькі год было вам, спадар Янка, калі вы пакінулі Бацькаўшчыну?

— Шаснаццаць. Многія рухаліся на Захад, пайшоў і я. Вайна жыццё перакруціла. Яшчэ пры немцах я хадзіў у Карэлічах у школу, потым мяне прызначылі на працу ў лясніцтва ў Шчорсах.

— А вашы бацькі?

— Засталіся ў Руціцы. Гэта вёска мая, недалёка ад Карэлічаў. Я там пабываў таксама. І здарыўся са мной выпадак, які я ніяк не магу сабе дараваць. Сустрэў сябра. Ён, як убачыў мяне, кінуўся насустрач па полі, па горцы. Крычыць: "Янка, Янка, гэта ж я, Карчэўскі". А я зніякавеў і гавару: "Даражэнькі, ну ніяк не магу дайсці да таго, што я цябе ведаю". І да сёння не ўспомніў. Хочацца вельмі знайсці яго фатаграфію таго веку. Спадзяюся, што маю яе.

І яшчэ аднаго сябра пабачыў. Мікалая Ляшчынскага. Успомнілі з ім, як хадзілі ў лес лавіць чмялёў і прыносілі іх дадому. Чаму так рабілі? Мой бацька меў пчолы, а мы любілі мёд. А каб мець свой мёд, рашылі прынесці сабе чмялёў. Ужо потым, калі мой бацька паміраў, ён падарыў Мікалаю свае пчолы. Цяпер Мікалай мае пасеку і прынёс мне слоік мёду. Казаў, гэта ад тых пчол, што пакінуў мой бацька. І яшчэ раскажу вам цудоўную казку, хаця гэта не казка, а сапраўднасць.

Марыя павяла дзядзьку на экскурсію ў этнаграфічны музей, што непадалёку ад Мінска. Уражанне было нечаканым.

— Мы ішлі, ішлі, а потым экскурсавод завёў нас у хату. Ну тыповая мая сялянская хата, у якой некалі жыў. Увайшлі, селі. У куце яма, дзе трымалі бульбу. Перада мной печ. На такой калісьці спалі. Палок, засланы посцілкай, стол і кросны, акурат як у нашай хаце. Бацька мой быў добрым майстрам. Сам рабіў кросны, бароны, бочачкі. Я сеў за стол, на яго паклалі бохан хлеба, соль і зрабілі на памяць здымак.

— Столькі часу прайшло, а вы ўсё так добра памятаеце?

— І я думаў, што добра памятаю. А многага не пазнаваў. Як уязджалі ў нашу вёску, спытаў: "Ці ж гэта Руціца?"

— Няўжо яна так змянілася?

— Найперш мне здалося, што хаты не так стаяць. І толькі потым пачаў даходзіць да ладу. Пры мне хаты былі нефарбаваныя, а цяпер іх памалявалі. Гумнаў няма на падворках. Хлявы змянілі сваё месца і сталі меншымі, бо сяляне не трымаюць столькі жывёлы, як раней. Глянуў на тую рэчачку, дзе калісьці лавіў рыбу, а яна амаль поўнасцю зарасла.

На магілах бацькоў Янка Калбаса паставіў новыя помнікі і сказаў сваю ўрачыстую малітву, выконваючы свой сыноўскі абавязак перад людзьмі, якім абавязаны жыццём. "Вы бацькі мае, мне дарагія. Я ваш сын і сын зямлі беларускай. Моцна кахаю вас і вамі ганаруся! З малітвай Божай да вас прытуліўся". З тым і развітаўся з роднай Руціцай.

## НЕСАПРАЎДНЫЯ МІЛЬЯНЕРЫ

Расказваючы пра сябе на чужыне, Янка Калбаса зазначае: "Сваё жыццё мы перакруцілі на заходні лад". Але ж карані яго засталіся тут, і памяць, хоць часам і здраджвае, захоўвае далёкае мінулае. Таму пра што б спадар Янка ні пачынаў гаварыць, ён абавязкова параўноўвае, як было тады, у яго маладосці, і што бачыць тут сёння. Параўноўвае і са сваім жыццём у Англіі.

Я ўжо казала, што ў Янкі Калбасы шмат сваякоў у Беларусі — і на вёсцы, і ў горадзе. І ўсе яго запрашалі ў госці.

— Для мяне была нечаканасцю такая дабрадзейнасць, беларускасць, шчырасць пры сустрэчах, — расказваў зямляк. — Яны аддадуць усё, што маюць, хаця самі не так многа і маюць, падзеляцца апошняй крошкай. Беларусы, якія жывуць у Англіі, не забыліся на гэтыя звычаі, таксама шчырыя, але ўсё ж больш стараюцца пакінуць для сябе. Ёсць такая старая традыцыя — каб было ў хаце і на другі раз.

Спадару Янку вельмі спадабаўся Мінск, а вось чэргі на прыпынках гарадскога транспарту і тое, як людзі пхаюцца ў аўтобусы і тралейбусы, а потым едуць, прыціснутыя адзін да другога, нібы селядцы ў бочцы, вельмі засмуцілі яго.

У магазінах Янка Калбаса ніяк не мог справіцца з нашымі грашыма.

— Трэба быць матэматыкам, каб лічыць вашу валюту, — скардзіўся ён. — Усё ў тысячах, за паўгадзіны можна стаць мільянерам, размяняўшы 100 долараў. Таму я сказаў Марыі: "Забяры ад мяне гэтыя грошы і вядзі гаспадарку, як ты гэта ўмееш".

К канцу свайго гасцявання Янка Калбаса ўжо не палохаўся нашых тысячаў. Зразумеў, што мільянеры мы не сапраўдныя, а так сабе, з гора.

— Спадар Янка, вы казалі, што не адразу пазналі сваю вёску, бо змянілася яна. А ці змянілася жыццё вашых землякоў? Лепш ці горш жывуць яны цяпер?

— Хай людзі мне даруюць, але падалося, што яны прыйшлі да горшага. Беларусь жа не бедная, яна мае ўсё, што чалавеку трэба. І людзі быццам бы шчырыя да зямлі, але не ведаюць, як з ёю паступаць.

— Ці ж магчыма такое, што селянін не ведае, як паступаць з зямлёй? Як да такога дайшло?

— А ніякі гэта не сакрэт, і ўсе дакладна ведаюць, што зрабілі з кулакамі. А гэта ж былі самыя руплівыя гаспадары. Калі сённяшняя гаспадарка не стане на ногі, краіна зробіцца яшчэ бяднейшай. Зніжаючы сельскагаспадарчую прадукцыю і спадзеючыся толькі на горад, робім вялікую памылку. І найперш гэта павінна зразумець дзяржава, урад і падтрымаць сялян. Каб я зараз вярнуўся ў вёску, то павёў бы гаспадарку па традыцыях брытанцаў. У іх кожны кавалачак зямлі апрацаваны, і дадзена ёй усё, што неабходна. Зямля — тое ж, што і чалавек. У глебу трэба даць заправу, каб яна прынесла плады, а людзі цешыліся з іх. Чаму ў Беларусі зямля дрэнна даглядаецца? Цяпер жа няма абшарнікаў. Лічу: той, хто мае ахвоту працаваць на зямлі і мае веды, павінен гэтым займацца.

## ЯНКА, А НЕ ІВАН

— Спадар Янка, вы казалі, што шмат гадоў чытаеце "Голас Радзімы". Задавальняе вас газета?

— Заўсёды з цікавасцю прачытваю ўсё, што пішаце ў "Голасе Радзімы". Мы ж хочам ведаць, чым жывуць людзі на Бацькаўшчыне, якія навіны, якая структура ўлады і якія законы. Добра, каб пісалі пра тое, што трэба ведаць, калі едзеш на Радзіму.

Я вам раскажу пра адну праблему, з якой я сутыкнуўся тут. Для ўрада яна можа і простая, а няведанне яе зрабіла для мяне крыўду. Сталася так з-за таго, што ніхто мне не падказаў (найперш у Беларускай амбасадзе ў Лондане, дзе выдавалі мне візу), што, прыехаўшы ў Беларусь, я павінен зарэгістравацца і заплаціць 20 тысяч рублёў за кожны дзень знаходжання на беларускай зямлі.

І вось я прыехаў у Мінск, жыву сабе і жыву ў пляменніцы, а праз некаторы час прыходзіць міліцыянер і заяўляе, што я падлягаю штрафу, бо мусіў раней зарэгістравацца і заплаціць грошы. Вядома, мы грошы заплацілі, а магло ж стацца, што чалавек на такія выдаткі не разлічваў і ў яго магло не быць грошай.

У сувязі з гэтай гісторыяй Янка Калбаса выказаў пажаданне, каб у "Голасе Радзімы" часцей друкаваліся абвесткі аб розных зменах у правілах, што маюць дачыненне да замежных беларусаў, якія збіраюцца наведаць Бацькаўшчыну, і мы пастараемся выканаць гэта пажаданне.

У АВІРы Маскоўскага раёна Мінска, дзе Янка Калбаса пабываў, калі плаціў штраф, яму давялося перажыць яшчэ адно непрыемнае непаразуменне. Ён расказваў, што ў Вялікабрытаніі, вырабляючы беларусам пашпарты, англічане запісвалі ім тую нацыянальнасць, якую яны называлі. Таго, хто нарадзіўся ў Беларусі, запісвалі беларусам. І імёны ўпісвалі такія, якія яны называлі.

— Я сказаў: маё імя Янка, больш ніякіх імёнаў я не прызнаю, і, будзьце ласкавы, так мяне запішыце.

Чыноўнік не пярэчыў, і ў англійскім пашпарце нашага земляка запісана, што ён Янка Калбаса. Беларусы за ім такога імя не прызналі. Чыноўнік у АВІРы сказаў: "Ты не Янка, а Іван". І выпісаў квітанцыю на імя Івана Калбасы.

* * *

І ўсё ж нягледзячы на некаторыя непаразуменні, добрых уражанняў і шчырай радасці было больш. Спадар Янка ведае цяпер дарогу на Радзіму і ўпэўнены, што тут яго сустрэнуць родныя людзі. На развітальны абед у цеснаватую двухпакаёвую кватэру Міколы і Марыі Водыкаў прыйшлі сваякі, і іх дзядзька расчуліўся.

— Многа гадоў назад, — сказаў ён, — калі я быў у самым росквіце свайго жыцця, мне падарылі цудоўную бутэльку шампанскага з пажаданнем выпіць яго з нагоды самай шчаслівай жыццёвай падзеі. Прайшло 30 гадоў. І вось сёння самы шчаслівы дзень у маім жыцці — дзень сустрэчы з роднай Беларуссю, з маімі роднымі, з маімі сябрамі.

Сівы чалавек радаваўся, як дзіця, адчуваючы сябе ўтульна і спакойна сярод блізкіх людзей. Ён падняў тост за найлепшую прышласць, за здароўе прысутных і ў памяць тых, каго сёння ўжо няма.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**





НА ЗДЫМКАХ: Марыя ВОДЫК (злева) з сынам і маці сустракаюць дзядзьку ў Руціцы; за вёскай з сябрам дзяцінства.

*З-ЗА МЯЖЫ*

# БЕЛАРУСЬ? ДЗЕ ГЭТА?

Прывітанне з далёкага замежжа!

Піша вам Галіна Бацюшка з Кліўленда. Мы з мужам і дачкой Надзеяй прыехалі ў Кліўленд, у Беларускую суполку, чатыры месяцы таму на пастаяннае месца жыхарства. Зараз я супрацоўнічаю з пісьменнікам і рэдактарам, пляменнікам вялікага Я. Коласа — спадаром Аляксандрам Міцкевічам, які ў Нью-Йорку выдае "Весткі і паведамленні", дасылаю яму вершы, артыкулы. Вось вырашыла напісаць вам, на Радзіму, свае ўражанні — верш "Ліст да маці".

Сама я па адукацыі доктар-тэрапеўт. Шчыра дзякую вам за такую добрую вашу газету. Яна нам вельмі патрэбна. Буду чакаць на ліст адказу.

З павагай да вас

**Галіна.**

## ЛІСТ ДА МАЦІ

**Добры дзень,
мая любая маці!
Пішу ліст табе шчыра,
старанна,
Невядома, з чаго пачынаці
Сумны ліст свой з па-за
акіяна.**

**Мы жывем і працуем,
як можам.
Цяжка: вучым
чужынскую мову.
Часам ўсё ж настальгія
нас гложа,
Ну а ўвогуле
жывы-здаровы.**

**Што за людзі, пытаеш,
жывуць!
Людзі розныя: людзі
як людзі.
Потам хлеб свой здабыты
ядуць
І не ведаюць, што далей
будзе.**

**Толькі часам пытаюць
мяне:
"Хто ты будзеш!
Адкуль ты ўзялася!"
"З Беларусі", — а сэрца
ў агне,
І душа недзе ўвысь
падалася...**

**Не магу то пытанне знясці:
Часта амерыканцы
не знаюць,
Што за "звер" такі —
Беларусь!
Па кавалках яе
разбіраюць.**

**"Дзе ж ўсё ж гэта! —
пытаюць тады. —
Гэта Літва, ці Раша,
ці Поланд!
Ці Украіна!" Трэба гады,
Каб уталіць навуковы
іх голад.**

**Сумна, цяжка да болю
сцярпець
Бессэнсоўнае гэта
пытанне!
То не лось і не тыгр,
не мядзведзь!
Гэта край, дзе працуюць
старанна!**

**Дзе азёраў прыгожых
блакіт,
Беластволых бярозаў
прасторы.
І жыццё там бурліва кіпіць,
А Чарнобыль прынёс
столькі гора!**

**"А, Чарнобыль, —
ўздыхаюць яны, —
Нам вядомы. Няма ўжо
пытання".
Адчуваю я подых віны,
і журбы,
І негадавання...**

**Мама! Буду любіць
я заўжды
Мілы край, дзе мяне
нарадзіла.
Буду помніць дзяцінства
гады,
Родны Гродна, прыгожы
надзіва.**

**Веру: будзе такое, калі
"Беларусь"! — загучыць
ганарліва,
І спытаюць чужынцы тады:
"Ці ж той край, дзе
жывуць ўсе
шчасліва!"**

**Галіна БАЦЮШКА.**

ЗША,
Кліўленд.

# МАЁ РОДНАЕ МЯСТЭЧКА ДЗІСНА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Школа знаходзілася ў вёсцы Стары Пагост Дзісенскага пав. Мясцовая традыцыя ўтрымлівае, што Стары Пагост быў калісь горадам, меў свае цэрквы і гарадзішча.

За маёй памяці, аднак, акром гучных традыцый і надзей на нейкае прароцтва, што калісь Стары Пагост будзе ізноў вялікім горадам, вёска нічым не розьнілася ад іншых вялікіх беларускіх вёсак. Хат у вёсцы было звыш 60, пабудаваных у доўгі рад абапал адзінай вуліцы, часьцю каторай праходзіла дарога з Гэрманавіч у Новы Пагост (бліжэйшыя мястэчкі). На 60 вясковых хат былі толькі 4 хаты каталіцкія, рэшта ўсе лічыліся праваслаўнымі, а раней былі ўніятамі"...

З успамінаў вынікае, што сцены тамтэйшай пачатковай школы наведваў малы Вацік Ластоўскі. *"Паступіў я ў Старапагоскую школу ў 1892 годзе і вучыўся ў ёй да 1894 года. Школьны будынак стаяў у цэнтры вёскі, пры самай вуліцы, і спаверхнасьцю сваёй адрозніваўся ад іншых гаспадарскіх хат хіба толькі большай сваёй старасьцю і кляймом нейкай архаічнасьці. Будынак стаяў не канцом, а бокам да вуліцы. Праз шырокія аднастворныя дзверы, над якімі паміж дзвюма крыжамі фігаравала цыфра 1721, уходзілася ў абшырныя сені".*

Атрымліваецца, што акурат сёлета Старапагоскай школе — 275 гадоў!

Але працытуем яшчэ колькі радкоў пра тагачасных настаўнікаў і характар настаўніцтва на Дзісеншчыне ў канцы мінулага стагоддзя.

*"Школьны персанал складаўся з "дырэктара" (вучыцеля), выбіранага штогоду, і "дасьціпула" (стоража), за маіх часоў спаўняўшага свае абавязкі дажывотна, — не без сантыменту прыгадае пазней удзячны вучань. — Як дырэктар, так і дасьціпул рэкрутаваліся з безьзямельных той жа самай вёскі сялян. Прычым, за ранейшых часоў, дырэктарскі ўрад заўсёды зьвязваўся з урадам пастырскім; адна і тая ж асоба летам пасьвіла вясковую худобу, а зімой, калі худобу запіралі ў хлявах, брала ў свае рукі кіраўніцтва і адукацыю вясковай моладзі"...*

Ва ўспамінах напаткаем цікавыя экскурсы ў мясцовую анамастычную стыхію.

*"Прозьвішча майго першага мэнтара было Рубаха (імені не памятаю). Прозьвішча "Рубаха" накінута ўсім пагашчанскім Кушалёнкам, перад самым звальненнем з-пад паншчыны, пры такіх варунках: дзеля нейкай патрэбы расійскі чыноўнік сьпісываў ўсіх сялян у валасьці; калі дайшоў чарод да бацькі цяперашняга Рубахі, то чыноўнік запратэставаў: "Кушуля, Кушуля! што за кушуля! Рубаха, а не кашуля! Понімаеш: порускі — рубаха, а не кушуля і ты не Кушулёнак, а Рубаха!" Запісаў Рубахай, і з таго часу пайшоў род Рубахаў у Старым Пагосьце".*

Пасля заканчэння парафіяльнай школкі ў 1894 годзе Ластоўскі пакінуў родныя сцены. Верагодна, нейкі час вучыўся ў Дзісенскай павятовай вучэльні. У кожным разе ва "Уражаннях з паездкі ў Беларускую радавую сацыялістычную рэспубліку" ён потым з любасцю згадае гарадок: "Маё роднае мястэчка Дзісна".

Мясцовыя рэаліі і назвы зніталі сюжэтную аснову легенды "Юга і Грамавік". "Гадоў таму капы са дзве будзе, як у вёску Дзянісава прыйшла, неяк пасля Змітраўскіх Дзядоў, тоўстая баба. Сюды-туды пакруцілася па вёсцы і шусь да Прахора ў хату..." Бабця тая "прыйшла папрасіцца на кутніцу", дакляруючы: "Вы каля мяне заробіце, калі за мае грошы пракорміце мяне". Так Прахор выкупіў харчы ва ўсім наваколлі і "павінен быў ездзіць з фурманкай па харчы ажно пад Задарожжа, Друю і пад Глыбокае".

Праўдзівай скарбніцай што да фальклорнай і этнаграфічнай гісторыі Дзісеншчыны стаў выдатны артыкул В. Ластоўскага "Да шукання крыніц народнай творчасці"... *"...Успамінаючы мае маладыя гады і акружаўшае мяне, у той час, кіпучае і поўнае жыццё нашай вёскі, я пастараюся сваімі ўспамінамі падзяліцца, каб кінуць кроплю сваю да высвятлення пытання аб народнай творчасці. За аснову я вазьму адрыўкі ўспамінаў вёскі Стары Пагост (Дзісенскага пав.) і яе ваколіц".*

У этнаграфічных эцюдах пад пяром адметнага майстра прозы каларытна ажываюць канкрэтныя постаці, земляні Ластоўскага. *"Быў у ваколіцах старык, па прозвішчу "Кажэ" (праўдзівае яго прозвішча — Сянкевіч), жыў у засценку Гірсах, за вярсту ад Пагоста. Старому было звыш 80 гадоў, жыў на паўтары валоках, а знача багата, сам адзін, як палец. Ён належаў да любіцеляў і знаўцаў слаўлення. Кожную грамаду валачомцаў выслухваў, седзячы пры адчыненым вакне. Калі слаўленнікі прышлі падгатаваўшыся, з асобнымі ў яго чэсць, на канцы спеву, строфкамі, частаваў усіх чаркай гарэлкі, выносіў кружок другі каўбасы, ці сыр на закуску і дзесятак другі яец механошаму ў карзінку. За асабліва ўдалае слаўленне запрашаў у хату, як гасцей. Калі ж прыходзілі такія, што чаўплі песню без разумення яе, стары злаваўся і нават лаяўся. У Старым Пагосце знаўцаў велікоднага велічання, паміж старых, было нямала. Да іх належаў Гродзь, Жураўскі, Васілеўскі, рыбак Лакотка, а найбольш пастыр Даніла".*

Цікава было б параўнаць, ці захаваліся да сённяшняга дня абрадавыя песні, запісаныя калісь Вацлавам Ластоўскім.

**А ці дома, дома сам гаспадар!**
**А хоць і дома ды не кажацца**
**(не сядзіць пры вакне).**
**Ён не кажацца, прыбіраецца,**
**Надзяе світу шоўкам шыту,**
**Надзяе боты казловыя,**
**Боты казловы, шапка**
**баброва!**

Апроч калядных ды велікодных, у артыкуле прыведзены "летнія" — жніўныя і дажынкавыя — песні. Пададзена таксама характарыстыка, як узнікаюць галашэнні, што ў свой час уразілі Ластоўскага "сваёй жаласлівай імправізацыяй".

*У Старым Пагосце, увосень, калі наступалі цёмныя і доўгія вечары, а яшчэ вечарніцы не пачыналіся, маладзеж вясковая, збіраючыся разам, штогод, калектыўна, укладала доўгую песню-сатыру. У 1894 гаду тэмай такой песні паслужыў чорны бык. Быка прывялі быццам у Пагост, і, на нарадзе, пастанавілі яго зарэзаць і падзяліць. Кожная часць быка даставалася камусь з гаспадароў характарызуючы яго, прыкладам: "Радзіку почкі, каб вяліся дочкі, а Дубчонку рогі, каб знаў дарогі, а Даніле вочы, каб не спаў у ночы" і г. д. Некаторым гаспадарам пасвячаліся чатыры і нават восем строфак, рысуючых яго недастаткі. Гэткі верш штогод перамяняўся калектыўным сабраннем на новы. Апавядалі і нават пялі дасціпныя адрыўкі з найдаўнейшага аднаго такога ж сатырычнага верша, тэмай да каторага была ўзята Бяда, якая прыйшла да Пагоста і схавалася пад мастом. Пачынаўся гэты верш словамі: "Сядзіць Бяда пад мастом, едуць людзі з хварастом; тут Бяда загуляла, ўсім калёсы паламала. Быў там Апанас, той бядзе у морду раз! Быў там і Пятрок, той у морду раз пяток!" і г. д. Кончылася справа тым, што выгнаная з-пад маста Бяда забралася ў вёску, тут яе ганялі бабы і дзеўкі, але без скутку.*

*Найцікавейшы час бываў пачынаючы ад першага дня Калядаў да Вадохрышча. У гэтым часе, ад захаду сонца, пачыналіся святыя вечары, у якія нельга класціся спаць да "пятухоў", а знача ад 4—5 вечара да 12-ай ночы. У дадатку звычай вымагаў, каб у гэтыя вечары баяць басні. Тут выступалі на сцэну лепшыя гутарнікі і пачыналі бесканечныя казкі і легенды, апавяданні традыцыйныя і нанова здуманыя, ды прыкрашаныя. У тыя хаты, дзе бывалі добрыя, красамоўныя гутарнікі, народу набівалася ўшчэрць, ад старых да малых. Лепшым гутарнікам у вёсцы лічыўся Міхалка-гарбар, пасля яго Сцёпка-бондар, чалавек неакелзанай фантазіі, які ўмеў давесці да слёз смехам і да гістэрычнага смеху апавядаючы страшное. Рэпертуар казак быў вечна новы і бесканечна багаты. Папаўнялі гэты рэпертуар валачомныя гутарнікі, якіх у мае часы, было нямала паміж перахожых убогіх, каторыя прыходзілі часам аж з-пад Бабінавіч (Магілёўск. губ.).*

*Акром гэтага, час ад часу, з прычын кождага значнейшага здарэння ўкладаліся сатыры вершаў; нават з прычыны нязначнага здарэння. Прыкладам: у Новы Пагост прыязджаў новы вучыцель, малады хлапец. Дарогай папасываў пры старапагоскай карчме, выехаў ужо змеркам і, па дарозе, згубіў клунак з бялізнай. Гэта пабудзіла некага злажыць сатыру, даволі дасціпную, якая пачыналася: "Ехаў Абрамчык (прозвішча вучыцеля, быў родам са Случчыны) ў Пагоста, пільнуючы конскага хвоста"... Гэткія вершы-сатыры скора тварыліся, скора і забываліся, а іх месца заступалі новыя падзеі і новыя сатыры. Рэдкія з гэткіх сезонных вершаў утрымліваліся ў памяці некалькі гадоў; гэта залежала ад меткасці слова і ад значнасці падзей. Вершы на звальненне ад паншчыны, у мае яшчэ часы, пераказваліся з памяці, а нават перапісваліся. Да гэткіх належалі "Гутаркі Данілы са Сцяпанам", а такжа іншага характару "Страшны суд", "Панскае ігрышча". Асаблівай увагай цешыўся "Страшны суд", які дапаўняўся і перарабляўся; устаўляліся ў яго строфкі аб акалічных хлапцах, дзяўчатах, гаспадарах і гаспадынях з абазначаннем ім кар на тым свеце. Пачынаўся верш так: "Паслухайце толькі людзе, што на страшным судзе будзе! кары страшны за грахі, за хохаткі ды за смехі"...*

*Акром свецкай песні, сатыры, казкі і паэмату існавала цэлая літаратура духоўная, якая пераказвался з вусн у вусны або распявалася. Спецыялістамі ад гэтай літаратуры былі асобныя "старцы"-жабракі, якія хадзілі з музыкальным інструментам — лірай, скрыпкай або гармонікай. Забраўшыся ў вёску, такі старац не выходзіў, пакуль не пераспяваў усіх песень, слухаць якія збіраліся пераважна пабожныя вясковыя кабеты. Старац гасціў у вёсцы ад 3 дзён да 2 тыдняў, залежна ад яго рэпертуару.*

*Словам, яшчэ гадоў 30 назад вусная беларуская літаратура была нечым саўсім жывым, што расло і кусцілася. Літаратура гэта абслужывала духовыя вымогі сялян, і, падтрымліваючы традыцыі, давала сокі новай творчасці. Існаваннем гэтай літаратуры толькі і можна вытлумачыць тое, што наш народ мог сам у сабе замкнуцца, і, жывучы сваім асобным жыццём, перахавацца дагэтуль".*

З успамінаў маленства і юнацтва на Дзісеншчыне запісаны рэдкі этнаграфічны абрад "Жаніцьба коміна". Пісьменнік назіраў яго ў мястэчку Ґерманавічы ў 1897 годзе. А ў вёсцы Баяры ўрачыстасць гэта мела адметную назву "Крэчыны". Пяру В. Ластоўскага належыць хіба і "гісторыка-абычаёвы" нарыс "Дуда", які паўстаў не толькі на падставе фальклорна-этнаграфічных даследаванняў П. Шпілеўскага, І. Насовіча ды іншых навуковых прац, але і з уласных успамінаў-рэмінісцэнцый пра дудароў і дуду. Дуда, "як музыкальны інструмент, цешылася вялікай пашанай, асабліва ў маладыя гады". У апошнім нумары свайго слыннага "Крывіча" (1927, № 12, с. 10) рэдактар-выдавец паспеў апублікаваць артыкул "Крывічана-пагашчанскія дзяды", таксама заснаваны на матэрыялах з родных ваколіц. Цікава, што старажытную песню пра гераічную абарону Крычава Ластоўскі пачуў і запісаў у сябе на радзіме.

Што яшчэ накладвае непаўторны адбітак на пісьменніка "малая Радзіма", апроч рэалій маленства, каларытных успамінаў, нораваў, людскіх характараў, адметных краявідаў і іншага — дык гэта моўная стыхія. Пісьменнік пачынаецца з мовы. Аксіёма, што не патрабуе доказу. Ва ўступе публікацыі "Матэрыялы да беларускага зельніка" В. Ластоўскі засведчыў, што пачаў збіраць моўныя скарбы "йшчэ ў 1911—1914 гг. На Лепельшчыне, Дзісеншчыне, а часьцю ў Пружанскім павеце (аколіцы Шэрашэва і Селец)". А ў прадмове да слыннага "Падручнага расійска-крыўскага (беларускага) слоўніка (Коўна, 1924) аўтарам названа яшчэ больш ранняя дата: 1902 год. Сярод "Дапаўненьняў" да слоўніка можна сустрэць канкрэтныя геаграфічныя адсылкі на мясціны, у якіх Ластоўскі занатаваў тое або іншае слоўца: *"БОДРСТВУЮ — чуйную. Начамі ня сплю, чуйную (Задарожжа, Леп. пав.); БУГАЛТЕР — які піша кнігі і рахункі; кнігатай (Лужкі, Дзіс. пав.). Дворны кнігатай; ДРАЧУН м. — друцкі, друцец, друццы. (Вёска Баяры Дзіс. пав.). У блізкай ад Баяраў вёсцы Сталіцы ў 1890-х гадох, як наёмны разбойнік, калі трэба было каго выбіць дзе на кірмашы, — слыў Аўхім, які меў мянюшку за сваё задзірацтва "друцкі". Аўхім друцкі. (с. 816); НАСЕКОМЫЯ — гмызура, гмызурка, гмыз (Пагост, Дзіс. пав.); ПАХОТА ж. — ральля, аральля. Слова "пашніца" сустрачаецца ў абрадавых песьнях у значэнні "пасеву", "збожжа". Радзі Божа жыта і пшаніцу. У Лепельшчыне я чуў слова "пахаць" у значэнні Сеяць; ФЛАГ м. нямецк. — павет. У царкоўных старых хваласпевах я сустрачаў слова "павет" у значэньні флагу, або знаку, пад які сабіраліся на вайну людзі данай аколіцы. Ад "павет" знак акалічны, пазьней гэтае слова прынялося як адміністратыўнае дзяленьне. У в. Пагост Стары Дзіс. пав. калі першы раз было загадана справіць сялянам флагі і вывешваць іх у табельныя дні, то сяляне называлі іх "повецямі".*

*Вяртаючыся напрыканцы зноў да творчай спадчыны Вацлава Ластоўскага, прыгадаю заключныя радкі з апавядання "Старасельскі магільнік": "...Дык вось ён наш Старасельскі магільнік. Калі я яго цяпер успамінаю, ён мне здаецца жывой гісторыяй краю, абнімаючай падзеі ад бронзавага, а мо, нават, каменнага веку, да нашых часаў.*

*Цур, пухам зямелька вам, мінуўшыя пакаленні!"*

Цур, шчасця табе, Дзісеншчына, якая нарадзіла такога волата, годнага сына Бацькаўшчыны. Ты сталася ягоным першавытокам. Ад любові і захаплення тваёй вечнай красой ён потым адкрыў і палюбіў сваю вялікую Радзіму — Беларусь-Крывію.

Дзеля велічы і незалежнасці якой Вацлаў Ластоўскі склаў на алтар найдаражэйшае — сваё жыццё.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

---

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

## ВЕТЭРАНАМ ВАЙНЫ

**Вас амаль што цілкам**
**да вялікіх і слаўных здзяйсненняў вялі...**
**Вас вялі...**
**Вы ішлі...**
**Без ваганняў жыццё аддавалі**
**толькі б рай збудаваць**
**на шматгрэшнае гэтай зямлі...**
**Вы яго**
**на слязах,**
**на крыві,**
**на касцях будавалі!**

**Як вам верыць хацелася:**
**гэта ж ўсё нездарма!**
**Недарэмны цяжар,**
**што сабе вы ўзвалілі на плечы...**
**Вы прачнуліся раптам**
**і ўбачылі:**
**раю няма...**
**І нічога няма...**
**Ёсць галеча**
**і бруд чалавечы...**

**Ветэраны вайны!**
**Ветэраны той даўняй вайны!**
**Вас тады абмінулі**
**асколкі варожых снарадаў...**
**Гэта ваша бяда...**
**Гэта ваша віна**
**без віны...**
**Вас вялі на парад...**
**Ды не вы кіравалі парадам!**
**І з дакорам глядзяць**
**пастарэлыя вашы сыны,**
**І дарогаю іншай ідуць**
**пасталелыя ўнукі...**
**Ветэраны вайны...**
**Ветэраны той даўняй вайны...**
**Ну няўжо не хапіла вам**
**чорнае гэтай навукі!!**
**І нічога няма...**
**Разлятаюцца ў пыл міражы...**
**Не патрэбны нікому**
**ні зоркі,**
**ні вашы пагоны...**
**Не ўтрымаўся цягнік**
**на чарговым крутым віражы,**
**І ляцяць пад адхоны**
**вагоны,**
**вагоны,**
**вагоны!**

**Ветэраны вайны,**
**ветэраны той даўняй вайны**
**толькі смерці чакаюць...**
**і болей нічога не хочуць...**
**Бо нічога няма...**
**Толькі сны...**
**Толькі сумныя сны,**
**як варожыя танкі**
**па сэрцах старэчых грукочуць...**

*ПЕРШЫ КОНКУРС*



# «ФАРТЭПІЯНА. МІНСК-96».



На Першы міжнародны конкурс музыкантаў "Фартэпіяна. Мінск-96" да нас з'ехаліся прадстаўнікі розных краін свету. Не надта далёкіх, але ж і Расія, і Украіна, і Літва, Латвія, Польшча, Грузія ды Малдова былі прадстаўлены. Вельмі высокі прафесійны ўзровень выканальніцкага майстэрства спаборнікаў з прыемнасцю адзначыла міжнароднае журы.

Студэнт Беларускай акадэміі музыкі Іосіф Сяргей, ганараваны лаўрамі некалькіх міжнародных конкурсаў, стаў знакамітасцю і ў сябе на радзіме, заваяваўшы другую прэмію. З такой лёгкасцю выканаўшы Канцэрт № 2 К. Сен-Санса, ён сапраўды здзівіў слухачоў гучаннем інструмента. Тонкая імклівая музыка гэтага твора набыла пад пальцамі маладога творцы-піяніста свой, асаблівы сэнс. Праўда гавораць — выкананне ёсць другое нараджэнне твора.

Музыкантам зусім іншага тыпу выглядаў наш былы суайчыннік (цяпер ён масквіч) Андрэй Сікорскі з выкананнем Першага канцэрта П. Чайкоўскага. З расійскай аб'ёмістасцю і цвёрдасцю ўвасобіў ён на сцэне вобразы славутага твора, прадэманстраваўшы бліскучую фартэпіянную тэхніку і вельмі добрае самавалоданне. Андрэй Сікорскі — бясспрэчны лідэр конкурсу. І журы пацвердзіла: першая прэмія!

Трэцяе месца належыць Тамары Санікідзе, якая прадстаўляла на конкурсе Грузію. Пасля другога тура ўся зала вітала яе стоячы.

Дарэчы, у зале філармоніі не было свабодных месцаў. Білеты на канцэрт пераможцаў раскупілі ўжо на пачатку правядзення конкурсу. Трэці тур і заключны канцэрт выклікалі аншлаг і засталіся ў памяці ідавочцаў як неардынарныя падзеі ў культурным жыцці нашай краіны.

Адметнай рысай конкурсу сталася надзвычай добразычлівае стаўленне да ўсіх удзельнікаў. Прытым увесь час ішоў абмен думкамі наконт выступлення таго ці іншага канкурсанта. Увогуле цяжка быць аб'ектыўным на конкурсе, асабліва калі "хварэеш" за сваіх.

Міжнароднае журы, якое ўзначальвалі такія прызнаныя майстры фартэпіяннага выканальніцтва, як Віктар Мяржанаў ды Ігар Алоўнікаў, займалася менавіта тым, каб ацэнка выступленняў удзельнікаў на ўсіх трох турах была як мага бліжэй да аб'ектыўнай. Здаецца, гэта атрымалася.

Падзякаваўшы Прэзідэнту рэспублікі і шматлікім фундатарам за фінансавую падтрымку конкурсу, старшыня арганізацыйнага камітэта першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка адзначыў вельмі высокі ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі ўдзельнікаў і паведаміў пра рашэнне правесці напярэдадні новага тысячагоддзя Другі міжнародны конкурс "Фартэпіяна. Мінск-99".

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё Міжнароднага конкурсу "Фартэпіяна. Мінск-96". Гасцей і ўдзельнікаў конкурсу вітае намеснік міністра культуры Уладзімір РЫЛАТКА; 2-я прэмія ўручаецца Іосіфу СЯРГЕЮ, студэнту Беларускай акадэміі музыкі.**



**П'есу Шварца "Голы кароль" па матывах казак Г. Х. Андэрсена паставіў у Тэатры юнага гледача маскоўскі рэжысёр Уладзімір Салюк. Яркае сцэнаграфічнае рашэнне спектакля прапанавала мастак Ларыса Рулёва, музыку да пастаноўкі напісаў кампазітар Уладзімір Кандрусевіч. Гэтым спектаклем адкрыўся новы сезон тэатра.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Голы кароль".**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

# «І ПЕСЦІЛІ ДУШУ ПРАМЕННІ...»

*ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА АЛЕСЯ СУЧКА*

Яго не стала раптоўна, хоць нічым не хварэў і не скардзіўся на хваробы. Жыць бы яму ды жыць... У гэты дзень, 27 жніўня 1993 года, калі Пятро Дабрыян ляжаў на аперацыйным стале ў слонімскай бальніцы, па тэлебачанні ўпершыню паказвалі пра яго дакументальны фільм, які зняў Юрка Голуб на Гродзенскім тэлебачанні. Цудоўны фільм, шчыры і светлы, якім быў і сам Пятро Навумавіч. Ён паспеў папярэдзіць усіх сваіх сваякоў, сяброў, аднавяскоўцаў аб тым, што будуць яго паказваць па тэлевізары. Але больш за ўсё чакаў гэтай перадачы ён сам. Чакаў, але, на жаль, так і не ўбачыў сябе на тэлеэкране. У гэты дзень паэта Алеся Сучка не стала.

Апусцела, асірацела хата ў Азярніцы. Так-так, ёсць на нашай Слонімшчыне вёска з такою прыгожаю назваю Азярніца, дзе шмат гадоў жыў гэты энергічны, рухавы, вясёлы і добры чалавек. Я часта гасцяваў у Пятра Навумавіча. І калі быў вольны час, мы ішлі да Бяздоннага возера, якое побач з вёскай.

— Люблю гэтыя мясціны, — гаварыў Пятро Навумавіч. — Памятаеш, як пісаў пра іх Уладзімір Караткевіч у сваім рамане "Хрыстос прызямліўся ў Гародні": "Пад вечар мы прыйшлі з ім на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя..."

Побач з Бяздонным возерам знаходзіцца унікальны старажытнаславянскі могільнік V—IX стагоддзяў. А недалёка — вёска Збочна, радзіма беларускага паэта, празаіка і дзіцячага драматурга Кандрата Лейкі (1860—1921). Гэтыя мясціны добра ведаў Алесь Сучок, бо амаль усё жыццё было звязана з імі.

Нарадзіўся Пятро Дабрыян 7 кастрычніка 1916 года, а ў 1926 годзе паступіў у першы клас польскай школы ў вёсцы Мяльканавічы. Вясной 1932 года ён уступае ў нелегальную піянерскую арганізацыю. У жніўні 1933-га Дабрыяна выбіраюць сакратаром Слонімскага падпольнага райкома піянераў.

Аднойчы пасля вечарынкі ў вёсцы Мяльканавічы Пятро Дабрыян папрасіў сваіх юных сяброў застацца ў хаце.

— Нам патрэбна навучанне на беларускай мове, — палымяна гаварыў Пятро. — Трэба падрыхтаваць забастоўку вучняў, каб адкрыць такую школу.

Юныя падпольшчыкі горача ўзяліся за справу. За некалькі тыдняў размножылі на шапірографе больш за дзвесце праклamацый. 16 студзеня 1934 года дзеці прыйшлі ў школу і заявілі дырэктару Вішнеўскаму, што жадаюць вучыцца на роднай мове. Для Вішнеўскага гэта быў гром з яснага неба. Ачомаўшыся ад нечаканасці, ён са злосці кінуў:

— Ніколі гэтага не будзе!

І тады школьнікі выйшлі на вуліцу і разгарнулі транспарант са словамі: "Патрабуем школы на роднай мове!" Дзвесце вучняў прайшлі па вуліцах Мяльканавіч, раскідваючы лістоўкі з такім жа зместам.

Праз некаторы час Пятра Дабрыяна арыштавала паліцыя, а ў верасні 1935 года акруговы суд прыгаварыў яго да чатырох гадоў турэмнага зняволення...

Вершы наш зямляк пачаў пісаць, як ён сам успамінаў, "яшчэ будучы ў слонімскай турме. Паперы і алоўка мець у камеры адміністрацыя не дазваляла. Але я ўхітрыўся... Пісаў алюмініевай лыжкай на сцяне..." Калі выйшаў на волю, пацiху адсылаў вершы ў Вільню. А каб схавацца ад праследаванняў, падпісваўся псеўданімам Алесь Сучок.

У 1938 годзе віленскі часопіс "Шлях моладзі" ўпершыню змясціў яго першы верш "Я бачыў".

**Я бачыў — усходзіла сонца,**
**З-за горкі зіхцела яно**
**І, яснае, пекна бясконца**
**Свяціла й свяціла ў акно.**
**І песцілі душу праменні,**
**У сэрца мне сілы лілі,**
**У думках ўставалі імкненні —**
**За сонцам плылі і плылі...**

Праз год той жа часопіс "Шлях моладзі" друкуе новыя вершы Алеся Сучка "Зіма", "Мне ахвота", "Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй". У простай і непасрэднай форме, выкарыстоўваючы традыцыйныя вобразы вясны, сонца, вольнай птушкі, паэт услаўляў свабоду. Ён пісаў пра жыццё вясковага бедняка, пра сялянскага хлопца-бунтара, які сядзіць у турме. Герой твораў нашага земляка быў моцны і рашучы чалавек, які верыў у сілы народа:

**Мы здабудзем перамогу,**
**Бо за намі ўвесь народ.**
**Падымайце ўжо трывогу,**
**Смела пойдзем у паход.**

Сёння вершы Алеся Сучка, напісаныя ў трыццатыя гады, маюць перш за ўсё літаратурна-гістарычную цікавасць. Іх агульны пафас — стваральны, сугучны нашым пераўтварэнням. Гэта вершы-заклікі, вершы-лозунгі. Паэт-змагар вучыўся майстэрству ў Валянціна Таўлая, Міхася Васілька, Максіма Танка і ў іншых паэтаў Заходняй Беларусі.

Перад самай вайною Пятро Дабрыян працаваў літработнікам слонімскай раённай газеты "Вольная праца". З рэдакцыі яго прызвалі ў армію. Вайна захапіла каля Гродна. Адтуль ён прабраўся на акупіраваную фашыстамі Слонімшчыну. Былыя падпольшчыкі і равеснікі шукалі адзін аднаго. Пятро Дабрыян звязаўся з сакратаром Слонімскага раённага падпольнага антыфашысцкага камітэта Феакцістам Міско. Ён, засуджаны на дванаццаць гадоў судом буржуазнай Польшчы, уцёк з турмы горада Грудзёндза, калі гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз. Гэта быў сапраўдны старэйшы сябра і дарадца.

У лютым 1942 года П. Дабрыян быў выбраны сакратаром маладзёжнай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі Какошчыцкага падраёна. А пасля давялося служыць у кавалерыйскім палку, дывізіёне баявога забеспячэння кавалерыйскай школы.

Дамоў наш зямляк вярнуўся ў пачатку мая 1946 года. Працаваў на гаспадарцы, загадчыкам сельскага Дома культуры, старшынёю сельсавета, стрэлачнікам на станцыі Азярніца. Па-ранейшаму шмат пісаў вершаў і ўспамінаў пра Заходнюю Беларусь. Уладзімір Калеснік у кнізе "Сцягі і паходні" (Мн., 1965 г.) адзначыў, што "мастацкая вартасць неяк паблякла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка (П. Дабрыяна), маюць сваё значэнне, іх нельга выкінуць, як слова з песні".

Пятро Навумавіч быў вельмі актыўным чалавекам, ён паспяваў усюды: на пасяджэнне літаб'яднання, на сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі, да сяброў у госці, адгукнуцца і дапамагчы ў бядзе. Ён прымаў актыўны ўдзел у рабоце раённага хору ветэранаў вайны і працы. О, як ён хораша спяваў! Спяваў "Зорку Венеру" Максіма Багдановіча, "Раве ды стогне Днепр шырокі", беларускія і рускія народныя песні. Ён умеў чытаць свае вершы, чытаў, як артыст. Ён жыў паэзіяй, у вершах была яго біяграфія, яго хваляванні, яго радасць і трывога:

**Прайшоў я з мовай праз пакуты,**
**Праз дзікі здзек былых паноў.**
**Не раз кайданамі быў скуты,**
**Не раз цярпеў боль бізуноў.**
**Але ад мовы не адрокся:**
**Я з ёю сеяў і касіў...**
**Сваю любоў да роднай мовы**
**Заўсёды ў сэрцы я насіў.**

Алесь Сучок ніколі не меціў у вялікія паэты, ды й пра гэта не думаў. Жывучы ў вёсцы, ён дасылаў свае творы ў рэспубліканскія часопісы і газеты. Лепшыя з іх з'яўляліся на старонках літаратурных выданняў. Падборкі нашага земляка былі надрукаваны і ў зборніках "Сцягі і паходні" (1965 год), "Ростані волі" (1990 год) і "Золак над Шчарай" (1994 год). Яго бясхітрасныя радкі напоўнены шчырасцю, адкрытасцю і даверлівасцю:

**Як жаўрука пачую спеў,**
**У захапленні стану:**
**Так прывітацца б з ім хацеў —**
**Рукою не дастану.**

Калі мне бывала сумна і надакучала гарадская мітусня, я ехаў да яго ў Азярніцу. Ён радаваўся сустрэчы. Ён любіў людзей і любіў жыць. 7 кастрычніка паэту Алесю Сучку (Пятру Навумавічу Дабрыяну) споўнілася б 80 гадоў. Зноў паеду ў Азярніцу, на гэты раз пакласці жывыя кветкі на яго магілу.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# СЛОВА КОЛАСА НАД НЁМАНАМ



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

тусь убіраў сэрцам красу роднай зямлі. Сыноўнія пачуцці да яе пасля выліліся ў такіх лірычных, вядомых ледзь не ўсяму свету радках:

**Мой родны кут, як ты мне мілы!**
**Забыць цябе не маю сілы.**
**Вось як цяпер, перада мною**
**Ўстае куточак той прыгожа.**
**Крынічкі вузенькае ложа**
**І елка ў пары з хваіною.**

Гады, пражытыя ў гэтых мясцінах, пакінулі ў Якуба Коласа незабыўныя ўражанні. Тут ён пазнаваў жыццё народа, сацыяльную несправядлівасць. Тут ён зведаў прыгажосць беларускай мовы, фальклору. Тут пачаў фарміравацца яго пісьменніцкі светапогляд.

І зусім натуральна, што ўбачанае, перажытае, асэнсаванае ў дзіцячыя і юнацкія гады стала асновай многіх твораў пісьменніка. А паэма "Новая зямля" прызнана класікай беларускай літаратуры. У ёй надзвычай паэтычна апісаны родныя мясціны пісьменніка.

**Каля пасады лесніковай**
**Цягнуўся гожаю падковай**
**Стары, высокі лес цяністы...**

Нядаўна я пабыў у гэтых мясцінах. Дзень выдаўся дажджлівы, змрочны. Аднак цудоўная прырода — заўсёды цудоўная. Высокія хвойкі стаялі задумліва, мудра, нібы прыгадваючы ўсё добрае, што адбылося на іх вяку. Мокры мох зелянеў прывабнай радасцю, сцішанасцю.

Апісаны Якубам Коласам краявіды каля Альбуці. Ручай у алешніку. Мосцік з бярвенняў. Сёння ў ваколіцах Альбуці таксама прыгожа, як і сто гадоў таму назад. Таксама журчыць ручай — "травой заросшая крынічка". Таксама шумяць вялізныя хвоі, праўда, яны з новага пакалення, Якуба не помняць.

Ды і новыя насельнікі паявіліся — бабры. Яны зрабілі цэлы гарадок з розных жэрдак, пабудавалі плаціну, сажалку.

У Альбуці Якуб Колас жыў восем год, да паступлення ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Да нядаўняга часу ў лесвічоўцы кватаравалі Белыя — Мікалай Міхайлавіч і яго жонка Ганна Іосіфаўна, якая ў час вайны была партызанскай сувязной. Сёння там даглядаюць хату іншыя людзі. Яны беражліва ахоўваюць усё, што ў ёй сабрана: розныя прадметы хатняга ўжытку, побыту таго часу.

Прыстанька — вельмі маляўнічая мясціна каля вёскі Мікалаеўшчына. Лясы. Лугі. Нёман. Вядомая яна і тым, што тут, на лясной паляне, 9 ліпеня 1906 года адбыўся нелегальны з'езд настаўнікаў Міншчыны... Яго ўдзельнікі былі арыштаваны царскім урадам, асуджаны на зняволенне. Якуб Колас адседзеў тры гады на цяперашняй вуліцы Валадарскага, дзе ў асноўным напісаў сваю паэму "Новая зямля".

А выйшаўшы з турмы, жыў у Смольні. Ад таго часу захавалася хата, у якой першы раз сустрэўся Янка Купала і Якуб Колас. Іван Дамінікавіч прыйшоў сюды пешшу са Стоўбцаў. У знак сустрэчы два генії беларускай літаратуры пасадзілі ліпы, якія растуць і сёння.

Цяпер у Смольні стаіць не толькі тая хата, якую, разабраную, прыгнаў на плыце па Нёмане дзядзька Юзік і тут сабраў. На высокім месцы красуецца двухпавярховы будынак філіяла музея Якуба Коласа (Мінск). У ім мноства экспанатаў, прысвечаных Якубу Коласу.

Расце тут яшчэ вялізная раскідзістая груша. Як сцвярджаюць, пад ёю Якуб Колас і Янка Купала гутарылі пра сваё надзённае, вялі задушэўныя размовы, якія паклалі пачатак дружбе двух карыфеяў беларускай літаратуры.

Як вядома, Якуб Колас не толькі любіў прыроду, але і папяншаў яе, як мог. Дзе б ён ні жыў — садзіў дрэвы, кветкі, даглядаў іх.

Асабліва любіў урочышча Дубы. Што гэта за выдатная мясціна! Дрэвы стаяць паважна, спакойна, нібы адчуваючы сваю моц, сілу. У апавяданні "У дубах" пісьменнік сказаў: "Такіх дубоў цяпер рэдка дзе ўбачыш".

Штогод у дзень нараджэння Якуба Коласа ў Дубах праводзяцца літаратурныя святы. На іх збіраюцца аматары яго творчасці не толькі з Беларусі. Слова Коласа гучыць над Нёманам на мовах многіх народаў свету.

А Нёман як бег, так і бяжыць. Між крутых берагоў. Ліжа карэнні дрэў. Мочыць галіны прыбярэжных кустоў.

Нёман вечны, як творчасць Якуба Коласа.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**










Здымкі зроблены Віктарам СТАВЕРАМ у Коласавых мясцінах.

## *СМАЧНА ЕСЦІ*

### ЗРАЗЫ «ПІКАНТНЫЯ»

**10 сырых бульбін нацерці на дробнай тарцы і адціснуць. Яшчэ 10 бульбін зварыць "у мундзірах", абабраць, прапусціць праз мясарубку. Сырую і вараную бульбу змяшаць, пасаліць. З бульбы зрабіць галушкі, кожную начыніць фаршам, абсмажыць у алеі, скласці ў каструлю, заліць соусам і крыху патушыць.**

**Для соусу неабходна 0,5 літра смятаны і крыху сметанковага масла — няхай гэта закіпіць на патэльні.**

**Для фаршу — дробна пасячы вараную рыбу (любую, толькі выбраць косці), змяшаць з варанымі пасечанымі яйкамі і смажанай цыбуляй. Усё пасаліць, папярчыць, старанна перамяшаць.**

**Замест рыбы можа быць выкарыстана і любая іншая начынка: мяса, каўбаса, грыбы, гародніна і г. д.**

### САЛАТ З БЕЛАКАЧАННАЙ КАПУСТЫ З ЯБЛЫКАМІ І ГРЭЦКІМІ АРЭХАМІ

**400 грамаў капусты, 100 грамаў яблык, 50 грамаў рэпчатай цыбулі, 50 грамаў ачышчаных грэцкіх арэхаў.**

**Для запраўкі: 3 сталовыя лыжкі алею, сок 1 лімона ці 3 сталовыя лыжкі раствору лімоннай кіслаты.**

**Гародніну тонка нашынкаваць, цыбулю абдаць кіпенем, арэхі здрабніць. Усё перамяшаць, заліць запраўкай, пасыпаць пасечаным зяленівам.**

### БУЛЬБЯНЫЯ ГАЛУБЦЫ З ЛІВЕРАМ

**1 качан свежай капусты, 12 бульбін, 200 грамаў лёгкага, 300 грамаў печані, 300 грамаў сэрца, 200 грамаў нырак, 100 грамаў свінога тлушчу, 2 цыбуліны, 2 морквы, 2 шклянкі смятаннага соусу з таматам, спецыі, соль.**

**Качан капусты адварыць да паўгатоўнасці ў падсоленай вадзе. Такім жа спосабам адварыць лівер, зняўшы з яго плёначную абалонку. Звараную ў мундзірах абабраную бульбу, лёгкае, сэрца, ныркі, печань прапусціць праз мясарубку з дабаўленнем цыбулі, морквы. Усю масу выкласці ў міску, дабавіць кроп, перац, соль і добра перамяшаць. Атрыманы фарш пакласці на капусныя лісты і завярнуць. Галубцы палажыць у каструлю, дабавіць лаўровы ліст. Прыгатаваць смятанны соус з таматам і заліць ім галубцы. Пакласці свіны тлушч, тушыць 30 хвілін.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1276.
Падпісана да друку 25.11.1996 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.